10 красавіка 2015 | № 14 (431)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Калі б не было Майдану...
стар. 12

3 ДУРНІ І ДАРОГІ

У Расіі, кажуць, дзве бяды, і абедзве яны вядомыя. Зрэшты, ад Расіі мы адышлі недалёка, і Аляксандр Рыгоравіч звярнуў на гэта ўвагу

11 ДРАКОН З МЯЧОМ



Пекін зацвердзіў амбіцыйны план, які павінен ператварыць кітайцаў у передавую футбольную нацыю. Нашто Кітаю быць самай магутнай футбольнай дзяржавай планеты?

4 «РУСКІ СВЕТ» І БЕЛАРУСКІЯ ВЕРНІКІ

Так бывае, што праваслаўныя трапляюць па розныя бакі барыкадаў

14–15 АЛЕСЬ АРКУШ: «ТРЭБА ЗАЎСЁДЫ ІМКНУЦЦА ДА САМАСТОЙНАСЦІ»



Алесь Аркуш усё сваё жыццё нечага прагне. Перш за ўсё — перамен. І не толькі літаратурных

# Краіна чыноўнікаў і зэкаў

**«Дэкрэт пра дармаедства», якога з жудасцю чакалі законапаслухмяныя грамадзяне Беларусі, на справе аказаўся чарговай адпіскай чыноўнікаў кіраўніку дзяржавы**



Сяргей ПУЛЬША

Не сакрэт, што славуты «дэкрэт пра дармаедства» яшчэ да яго прыняцця нарабіў шоргату ў асяродках збольшага законапаслухмяных беларусаў. Усе чакалі ад яго нейкіх жудасных захадаў. А на справе ён аказаўся даволі беззубым. Не хапіла ва ўлады крэатыўнага мыслення, і ў выніку незразумела, як ён будзе працаваць.

Ад пачатку разбярэмся, што такое гэты дэкрэт з эканамічнага пункту погляду. Зараз кожны «лайдак» павінен на працягу года заплаціць у бюджэт 20 базавых велічыняў «на пакрыццё сацыяльных выдаткаў». На сёння гэта 3 мільёны 600 тысячаў рублёў, альбо прыкладна $250. Будзем лічыць у доларах, бо так атрымліваецца менш нулёў.

Паводле словаў нашага кіраўніцтва, дай Бог яму здароўя, у краіне каля 400 тысячаў дармаедаў. 400 000 x 250 = $100 мільёнаў. Менавіта на гэтую суму максімальна можа разлічваць дзяржава з «дармаедскага падатку». Сума, з аднаго боку, немалая. Але ў маштабах краіны — пшык.

Да прыкладу, за валютнакрызісны снежань 2014 года, згодна з дадзенымі Нацыянальнага банка, беларусы набылі $902 мільёна. У цэлым за 2014 год насельніцтва купіла валюты на агульную суму $10,96 мільярда, прадало — на $9,58 мільярда. Чыстая купля валюты за мінулы год склала 1,38 мільярда долараў. Карацей, «бедныя беларусы», калі паднапружацца, за адзін месяц могуць дзесяць разоў пакрыць гадавую выручку «лайдацкага падатку».

Але наўрад ці яны будуць напружвацца. Справа ў тым, што вылічыць лайдакоў практычна немагчыма. Канешне, на ўліку ў міліцыі ёсць пэўная колькасць асацыяльных элементаў, але з іх і так узяць няма чаго. Што ж да астатніх, то начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах Міхаіл Расолька распісаўся ва ўласным бяссіллі, паведаміўшы, што падатковая разлічвае выключна на сумленнасць грамадзянаў. Па ягоных словах, чалавек, які апавесціць падатковую, што ён дармаед, атрымае зніжку ў выплаце збору ў 10%. «Лічым, што такую магчымасць грамадзяне скарыстаюць», — сказаў Расолька.

> **Трэба наладзіць татальны кантроль над выдаткамі грамадзян**

Цікава, хто прызнаецца ў дармаедстве? Нават апошні бомж, які збірае паперу ды бутэлькі па сметніцах, лічыць сябе не дармаедам, а эколагам, барацьбітом за другасную перапрацоўку сыравіны.

Канешне, падатковая будзе спрабаваць «шчаміць» дармаедаў праз зарэгістраваныя буйныя здзелкі. «У першую чаргу будуць праверaны грамадзяне, якія не ўдзельнічалі ў фінансаванні дзяржаўных выдаткаў, але пры гэтым здзейснялі дарагія пакупкі», — сказаў Расолька. Але ж пры гэтым здзелка павінна быць зусім буйной — нерухомасць альбо машына. Пры набыцці лядоўні альбо тэлевізара ні ў каго пашпарту і не запытаюцца. І я больш чым упэўнены, што кватэры не набываюць дармаеды.




Калі ўсур'ёз пачаць вылічваць «дармаедаў», то трэба наладзіць татальны кантроль над выдаткамі грамадзянаў. А гэта значыць, штат падатковай інспекцыі трэба павялічыць разоў у пяць. Збольшага, тады ўсе дармаеды стануць чыноўнікамі-падаткавікамі.

Адной з мераў, закліканых стымуляваць дармаедаў да яўкі ў падатковую, называецца тое, што ім будзе забаронены выезд за мяжу. Спадарства, гэта смешна! 70% беларусаў за мяжу не выязджалі ніколі! Гэта па-першае. Па-другое, як гэта ажыццявіць, калі ў нас адкрытая мяжа з Расіяй? Нават калі рускія з беларусамі дамовяцца пра ўзаемны абмен спісамі невыязных, то можна выехаць у Расію, а адтуль — ва Украіну і... Як там у Елкі пяецца? «Заўтра ў Барыспалі я буду сядзець у самалёце і думаць пра пілота...» Барыспаль — гэта аэрапорт пад Кіевам, хто не ведае.

Па інтэрнэце зараз ходзіць шмат экзатычных прапановаў, як не стаць дармаедам. Прапануюць зрабіцца інвалідам, нараджаць дзяцей, сысці ў войска і нават стаць сябрам Саюза пісьменнікаў. Але самы просты рэцэпт пазбавіцца «падатку на дармаедства», насамрэч — гэта быць пакараным за дармаедства адміністрацыйным арыштам. Адбыццё арышту прыраўноўваецца да выплаты збору.

Адседзець 15 сутак у нашых умовах, калі «па палітыцы» праз гэта прайшлі дзясяткі, калі не сотні тысяч чалавек, гэта нават не ганьба. У пэўных палітычных колах нават лічыцца, што калі ты «на сутках» не быў, значыць, з табой нешта не так: альбо ты КДБшны агент, альбо «ты яшчэ зялёны».

Праўда, за ўтрыманне «на сутках» таксама бяруць аплату. Як кажа лідар грамадскай ініцыятывы «Альтэрнатыва» Алег Корбан, апошнім разам яго «заехалі» ў ізалятар на сем дзён у снежні 2014-га года. За гэты тыдзень яму трэба было заплаціць 350 тысяч рублёў. Праўда, яму не налічылі грошы за два выходныя, дадаў Корбан.

Атрымліваецца, суткі ў ізалятары каштуюць недзе 70 тысячаў. Нават калі сто тысячаў пасля дэвальвацыі, нават калі максімальны тэрмін 15 сутак, то за гэта дармаед заплаціць паўтара мільёна рублёў, што на 2 мільёна 100 тысяч танней, чым падатак. Ну і, канешне, улічвайце два тыдні адпачынку па паважнай прычыне.

Карацей, дармаедам зараз два шляхі. Альбо ісці працаваць у падатковую, што аўтаматычна робіць іх чыноўнікамі, а не дармаедамі. Альбо ў кароткатэрміновыя «зэкі». Але, відавочна, што з «дармаедскага падатку» бюджэт сінявокай не надта выйграе, а можа, нават і згубіць. І таму гэты дэкрэт — проста адпіска на патрабаванне Аляксандра Рыгоравіча «навесці парадак» у гэтай сферы.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ЗАЛЕССЕ. Культурны праект «Ад Залесся да Парыжа»

**Новы культурны праект прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. Да яго рэалізацыі ў гэтым годзе прыступіў Беларускі фонд культуры сумесна з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй.**

Анарадзіўся праект дзякуючы руплівай творчай дзейнасці ансамбля салістаў Белдзяржфілармоніі «Класік-Авангард» і яго мастацкага кіраўніка, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Байдава. Тэматычны цыкл канцэртаў уключае 4 канцэртныя праграмы: «Старасвецкі баль» (прысвечаны творчасці сям'і Агінскага, яго сябрам і паплечнікам), «М.К. Агінскі ў Санкт-Пецярбургу і Варшаве» (прысвечаны вандроўкам М.К. Агінскага па сталіцах Расіі і Польшчы), «М.К. Агінскі ў Парыжы і Фларэнцыі» (прысвечаны сябрам і сучаснікам М.К. Агінскага, вядомым французскім і італьянскім кампазітарам), «М.К. Агінскі. Вяртанне на радзіму».

Плануецца, што канцэрты гэтага цыкла адбудуцца ў многіх гарадах і раёнах Беларусі, а таксама ў Літве, Польшчы, Францыі. 14 сакавіка прэзентацыя праекта «Ад Залесся да Парыжа» адбылася ў Музеі-сядзібе М.К. Агінскага ў Залессі і Смаргоні.

У час прэзентацыі праекта ў Залессі адбылося адкрыццё фотавыстаўкі «Эпоха Агінскага: аднаўленне памяці» фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага з Мінска.

**Паводле bfk.by**

### АСТРАВЕЦ. «Мова нанова» пашырае сваю дзейнасць

**Курсы беларускай мовы «Мова нанова» працягваюць ствараць свае філіі па розных гарадах Беларусі.**

«Прычым гэта не абавязкова абласныя альбо вялікія гарады», — кажа каардынатар курсаў Глеб Лабадзенка. — Адкрыліся курсы ў двух новых гарадах — Астраўцы і Гомелі. Такім чынам штотыднёвая колькасць студэнтаў у сярэднім дасягнула 700 чалавек. Студэнцкіх білетаў мы выдалі ўжо больш за 1300 — ад кастрычніка, калі мы пачалі гэта рабіць. Канешне, прыемна, што падвышаецца ўвага ў новых гарадах.

Паводле Глеба Лабадзенкі, у Гомелі на курсах збіраецца звычайна 50–60 чалавек, а ў невялікім гарадку Астравец курсы наведвае каля 35 навучэнцаў.

Працягваецца праца па стварэнні курсаў і ў іншых гарадах. Напрыклад, у Полацку ўжо ёсць каму весці заняткі, але пакуль арганізатары ніяк не знойдуць адпаведнае, зручнае памяшканне.

**«Радыё Рацыя»**

### МІНСК. Праваабаронцы ў абарону Мікалая Статкевіча

**Цэнтр прававой трансфармацыі «Lawtrend» і Праваабарончы цэнтр «Вясна» накіравалі заяву ў Дэпартамент выканання пакаранняў і ў адміністрацыю папраўчай калоніі №17 адносна ўзмацнейшагася ціску на Мікалая Статкевіча.**



Праваабаронцы занепакоеныя адміністрацыйным ціскам у дачыненні да Мікалая Статкевіча. Ён пазбаўлены атрымання чарговай харчовай перадачы, яму забаронены кароткачасовае і доўгае спатканне са сваякамі. Мікалай Статкевіч быў змешчаны на трое сутак у штрафны ізалятар, а 3 красавіка змешчаны на два месяцы ў памяшканне камернага тыпу.

Таксама вядома і аб іншых формах ціску. Накладзенне на Мікалая Статкевіча па надуманых прычынах спагнанні і складзеныя акты аб парушэнні дысцыпліны ствараюць падставы, пры якіх умовы яго ўтрымання могуць быць значна пагоршаныя. Праваабаронцы лічаць, што такія дзеянні адміністрацыі калоніі маюць мэтанакіраваны характар на прымус М. Статкевіча да напісання прашэння аб памілаванні на імя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Цэнтр прававой трансфармацыі «Lawtrend» і Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуюць:

1. Спыніць адміністрацыйны ціск у дачыненні да Мікалая Віктаравіча Статкевіча.
2. Адмяніць незаконныя дысцыплінарныя спагнанні, атрыманыя на працягу апошніх двух месяцаў, і ануляваць складзеныя акты аб парушэнні дысцыпліны.
3. Дапусціць прадстаўнікоў міжурадавых арганізацый (Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза, Прадстаўніцтва ААН у Беларусі) і дыпламатычных місій Еўрапейскага саюза ў папраўчую калонію № 17 для праверкі ўмоў утрымання Мікалая Статкевіча ў бягучы момант.

**spring96.org**

# Адзінага не будзе?

Генадзь КЕСНЕР

**Імаверна, што апазіцыя і на сёлетніх прэзідэнцкіх выбарах не абзавядзецца адзіным кандыдатам.**

Пра гэта даводзіцца казаць пасля сходкі 8 красавіка прадстаўнікоў «сямёркі», на якой Уладзімір Някляеў заявіў пра свой выхад з усіх апазіцыйных структур. Гэта заява былога кандыдата ў прэзідэнты, лідара кампаніі «Гавары праўду», была нечаканай. Але, па вялікім рахунку, лагічнай.

Так званая «сямёрка» складаецца з грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду», Партыі БНФ, Руху «За свабоду», Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» і аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

Ужо амаль са стопрацэнтнай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што ніякага Кангрэсу дэмакратычных сілаў па вылучэнні адзінага кандыдата ад апазіцыі на лістападаўскія прэзідэнцкія выбары не будзе. Палітычныя дзеячы ад апазіцыі зноў не змаглі дамовіцца нават па працэдуры вылучэння «адзінага». Глядзячы па ўсім, гэта сталася апошняй кропляй цярпення для Някляева.

«Двухгадовыя перамовы беларускай апазіцыі па вылучэнні адзінага кандыдата і вызначэнні сумеснай праграмы на прэзідэнцкія выбары–2015 завяршыліся безвынікова. У сувязі з гэтым заяўляю аб сваім выхадзе з апазіцыйных структураў, у тым ліку з грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду», актывістам якой я назаўжды ўдзячны за працу і падтрымку. Незалежнасць і дэмакратычная будучыня Беларусі застаюцца для мяне найважнейшай каштоўнасцю, і дзеля гэтага я буду працаваць і далей», — запэўніў Някляеў.

Як адаб'ецца крок вядомага паэта і палітыка на выбарах і на самой апазіцыі?

Як адзначыў у інтэрв'ю НЧ старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі Уладзімір Колас, на вялікі жаль, Някляеў не адыгрывае вырашальнай ролі, хоць сама гэтая значная асоба, безумоўна, вартая павагі. «Але ў той сітуацыі, якая створана ў нашых дэмакратычных сілах, ніякая асоба не можа нічога адыгрываць. Бо тыя людзі, якія ўжо даўно захапілі там лідзіруючыя пазіцыі, стварылі сітуацыю вечнага пату, калі яны ўсе калектыўна навальваюцца на кожную новую свежую кандыдатуру і сцягваюць яе да свайго ўзроўню — узроўню палітычнай бездапаможнасці», — падкрэсліў Колас.

Што да тэмы адзінага кандыдата, то пра яе нічога не магчыма сказаць у такой сітуацыі, лічыць суразмоўца. «Рада інтэлігенцыі даўно рабіла спробы кансалідаваць гэтых людзей, калі да канца яшчэ не было пераканання ў тым, што яны на гэта не здольныя. Мы мелі надзеі, але апошнія выбары, у якіх удзельнічаў як кандыдат і Някляеў, і на якія кандыдаты пайшлі шматлікімі калонамі, паказалі, што з гэтымі людзьмі не варта мець справу. Яны дажываюць свой палітычны век, калі гэта можна назваць палітыкай. Для гэтых людзей было б сумленна проста сысці за Някляевым, вызваліўшы поле для новых гульцоў», — упэўнены Уладзімір Колас.

На яго думку, ужо зроблена ўсё, каб лічыць сёлетнюю прэзідэнцкую кампанію страчанай для апазіцыі. Хоць, лічыць Колас, надзея памірае апошняй.

# Вяртанне ў андропаўшчыну

Сяргей ПУЛЬША

**Пасля выхаду «Дэкрэту аб дармаедах» некаторыя мясцовыя ўлады вынайшлі новы-стары спосаб адшукаць такіх у сябе ў горадзе.**

У Бярозе супрацоўнікі міліцыі спыняюць людзей працаздольнага ўзросту, якія знаходзяцца на вуліцах у працоўны час і пад выглядам пошукаў сексуальнага маньяка перапісваюць іх пашпартныя дадзены. У такую праверку патрапіў беспрацоўны сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ Андрэй Кавалевіч. Па ягоных словах, пасля перапісвання пашпартных дадзеных міліцыя потым дасылае грамадзянам позвы ў раённы аддзел унутраных спраў і патрабуе, каб людзі паведамілі пра сваё месца працы. Кавалевіч лічыць, што такім чынам міліцыянты ўжо зараз фармуюць спісы так званых «дармаедаў».

Нешта падобнае было ў практыцы ў часы Андропава ў Савецкім Саюзе, калі была ўведзеная так званая «барацьба за дысцыпліну». Падчас яе ў гарадах СССР праваахоўныя органы сталі праводзіць міліцэйскія аблавы ў кінатэатрах, буйных універмагах і іншых месцах збору людзей з мэтай выявіць прагульшчыкаў працы.

Праваабаронцы адзначаюць, што новы заканадаўчы акт беларускіх уладаў супярэчыць не толькі шматлікім міжнародным нормам, але і Канстытуцыі Беларусі, 41-ы артыкул якой усталёўвае працу як права, а не абавязак, і пералічвае выпадкі, калі дапускаецца прымус да працы з боку дзяржавы. Гэта рашэнне суда, надзвычайнае або ваеннае становішча. Такім чынам, па Канстытуцыі, ніхто не можа прымушаць чалавека працаваць.

Вядомы юрыст Гары Паганяйла раіць тым, хто патрапіў пад такую праверку, не з'яўляцца ў міліцыю па такіх позвах і не тлумачыць, чаму ён у працоўны час знаходзіцца на вуліцы. «Не з'яўляцца можна проста таму, што чалавек, у якога перапісалі пашпартныя дадзеныя, не ёсць правапарушальнікам. Адпаведна, дзеянні міліцыі па высвятленні яго месца працы незаконныя, а грамадзянін павінен падпарадкоўвацца толькі законным патрабаванням супрацоўніка міліцыі. Хай яны высвятляюць, дзе чалавек працуе, як-небудзь іншым чынам», — тлумачыць Паганяйла.

У дадатак ён прапануе абскардзіць дзеянні супрацоўнікаў міліцыі ў пракуратуры. «Па Канстытуцыі ў чалавека ёсць права як працаваць, так і не працаваць», — сказаў юрыст і дадаў, што зараз праваабаронцы працуюць над тым, каб прызнаць Дэкрэт №3 «Аб дармаедстве» не адпавядаючым Канстытуцыі і законам краіны.

Нагадаем, 2 красавіка Лукашэнка падпісаў дэкрэт «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства». Беспрацоўныя цяпер будуць выплачваць збор у памеры 20 базавых велічынь, за нявыплату збору прадугледжаны штраф ад двух да чатырох базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

# Камунальнікі Мазыра навязваюць людзям нязручныя здзелкі

**Камунальнікі Мазыра навязваюць гараджанам дарагія і кароткачасовыя, а таму нявыгадныя паслугі.**

Як паведаміў мазырскі праваабаронца Уладзімір Цэляпун, у снежні 2013 года жыхары вуліцы Светлай, дзе адсутнічае цэнтралізаваная сістэма газіфікацыі і каналізацыі, атрымалі ад адміністрацыі цэху водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі «Мазырскі райжылкамгас» паведамленні, у якіх пад пагрозай дэмантажу вулічных водаправодных калонак пітной вады прапаноўвалася да 1 мая 2014 года правесці ваду ў домаўладанні.

Жыхары мікрараёна накіравалі ў Мазырскі райвыканкам калектыўны зварот за подпісамі 46 чалавек. Яны выступілі супраць дэмантажу калонак пітной вады.

Апроч вялікіх выдаткаў на падрыхтоўку і ажыццяўленне праекту водаправоду і каналізацыі, патрэбныя немалыя грошы для перапланіроўкі і ацяплення памяшканняў, а таксама для адпампоўвання вады з выграбных калодзежаў.

**Марат Гаравы**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Дурні і дарогі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У Расіі, кажуць, дзве бяды, і абедзве яны вядомыя. Зрэшты, ад Расіі мы адышлі недалёка, і Аляксандр Рыгоравіч звярнуў на гэта ўвагу.**



Усярэдзіне тыдня ён правёў нараду па пытаннях транспартнай галіны. Лукашэнка забараніў павышаць кошт праезду ў пасажырскім транспарце. «Пераўтварэнняў у тарыфнай палітыцы ў бок павелічэння ў бліжэйшы час, я лічу, не адбудзецца, мы павінны знайсці ўнутраныя рэзервы», — абвясціў па выніках сустрэчы віцэ-прэм'ер Аляксандр Калінін.

І падкрэсліў: «Ідзе пошук аптымальных суадносін выдаткаў і тарыфнай палітыкі, на гэта арыентуе кіраўнік краіны». Сапраўды, НЧ ужо неаднаразова звяртаў увагу на скаргі нашых транспартнікаў, што пасажыры, маўляў, аплачваюць толькі палову або 30% ад кошту праезду. Прычым, нават з павышэннем коштаў на праезд гэтыя скаргі застаюцца ў сіле. Гэта значыць, колькі грошай ні ўбухвай, колькі кошт праезду ні падвышай, мы ўсё роўна аплачваем тую ж «палову або 30%». Хіба гэта нармальна?

Так што рашэнне Лукашэнкі вельмі апраўданае. Але лагічным было б, каб за гэтым мараторыем услед было прынята рашэнне разабрацца, чаму за год (з 1 красавіка 2014 года) талончык у Мінску падаражэў на 50% (з 3 000 да 4 500 рублёў), а мы ўсё роўна аплачваем «палову або 30%». Магчыма, трэба паглядзець, хто колькі скраў.

Зрэшты, калі ў адным месцы памянела, у іншым абавязкова прыбудзе — такі ўжо закон захавання рэчыва. Яшчэ да абвяшчэння мараторыя на павышэнне кошту праезду, у Мінску ўжо павышаны на 1,2% тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва.

Згодна з рашэннем Мінгарвыканкама ад 19 сакавіка №681, тарыф на паслугі па тэхнічным абслугоўванні жылых дамоў складзе Br 958,5 у месяц за 1 квадратны метр агульнай плошчы жылога памяшкання, тарыф на водазабеспячэнне — Br 1 453 за 1 кубічны метр, на каналізацыю — Br 970,1 за 1 кубічны метр. Аплата за карыстанне ліфтамі складзе Br 6 658 з аднаго жыхара ў месяц. Тарыф на паслугі па капітальным рамонце жылога дома застаўся на ранейшым узроўні — Br837,5 за 1 квадратны метр агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц.

З вясной надышоў час традыцыйнага спосабу вымання грошай з кішэняў насельніцтва. На 18 красавіка ўлады прызначылі першы ў гэтым годзе суботнік. Працоўную групу па яго падрыхтоўцы і правядзенні ўзначаліла намеснік прэм'ер-міністра Наталля Качанава.

«У сувязі са святкаваннем 70-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, аб'явай 2015 Годам моладзі і ў мэтах падтрымкі прапаноў калектываў работнікаў арганізацый і мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў рэкамендавана на добраахвотнай аснове правесці 18 красавіка рэспубліканскі суботнік на працоўных месцах або ажыццявіць добраўпарадкаванне і прывядзенне ў належны стан мемарыяльных комплексаў, помнікаў, месцаў баявой і воінскай славы, пахаванняў часоў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама падрыхтоўку дзіцячых аздараўленчых лагераў да летняга сезона», — гаворыцца ў пастанове Савета міністраў № 270 ад 3 красавіка.

**Лагічна разабрацца, чаму за год талончык у Мінску падаражэў на 50% а мы зноў аплачваем «палову або 30%». Трэба паглядзець, хто колькі скраў**

Звярніце ўвагу, хто, згодна з дакументам, вылучыў прапанову суботніка: «калектывы работнікаў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў». То бок, чыноўнікі выканкамаў, ужо нават не «працоўныя калектывы». Як паведамляе прэс-служба ўрада, згодна з дакументам, зароблены на працоўных месцах у дзень правядзення суботніка грошы «ў аб'ёмах, якія вызначаюцца работнікамі, у тым ліку дзейнасць якіх не звязана з вытворчасцю прадукцыі (работ), аказаннем платных паслуг, будуць пералічвацца праз раённыя і гарадскія выканаўчыя камітэты ў аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам». Яны, у сваю чаргу, пералічаць 50% грошай Міністэрству фінансаў, 50% застанецца ў іх распараджэнні.

Зразумелі, чаму работнікі «мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў» выказаліся пра ідэю суботніка? У іх проста грошы скончыліся! І за кошт суботніка яны маркуюць паправіць свой гаротны фінансавы стан, адсцягнуўшы 50% Мінфіну.

Дарэчы, нездарма выбраны і дзень для суботніка. 18 красавіка — першы дзень з чатырох выходных: у сувязі з Радаўніцай 21-га працоўны панядзелак 20-га будзе перанесены на суботу 25-га красавіка. І, зразумела ж, скарыстаўшыся такімі вялікімі выходнымі, людзі з'едуць на адпачынак, на лецішчы, рыхтавацца да ўласнай «пасяўной». А таму багата арганізацый замест добраахвотнай прыборкі тэрыторыі проста пералічаць дзённы заробак супрацоўнікаў у якасці «кампенсацыі за суботнік». А «мясцовым выканаўчым і распарадчым органам» толькі гэта і трэба.

І яшчэ адна цікавая навіна, якая павінна адбіцца на Службе бяспекі кіраўніка дзяржавы. Яшчэ нядаўна Лукашэнка для стасункаў з прадпрымальнікамі наведаў гандлёва-забаўляльны цэнтр «Экспабел». Літаральна праз тры тыдні з'явілася паведамленне, што Мінскае абласное ўпраўленне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях вынесла часовую забарону на працу адкрытага рынку і бізнес-цэнтра паблізу гандлёва-забаўляльнага цэнтра «Экспабел», якія належаць ЗАТ «Выставачны цэнтр «Аквабел».

Спецыялісты выявілі мноства тыпавых парушэнняў, якія тычацца эксплуатацыі электрасетак і электраправодкі з пашкоджанай ізаляцыяй, часовай электраправодкі, няправільнай устаноўкі павільёнаў. Аж да таго, што ў сакавіку на «Экспабеле» згарэла два кантэйнеры з-за няспраўнасцяў электраправодкі.

Уяўляеце, як рызыкнуў Аляксандр Рыгоравіч, наведваючы патэнцыйна небяспечны аб'ект? Зразумела ж, Служба бяспекі праверыла там усё, нават сметніцы на прадмет выбухоўкі, а вось на электраправодку — забылася. А калі б кіраўніка дзяржавы там токам страсянула? Не атрымалася б размовы з прадпрымальнікамі, і ўвогуле, улічваючы склад дэлегацыі, мы маглі б зусім застацца без кіраўніцтва краіны, а ІПшнікам бы не падоўжылі гандаль таварамі без сертыфікатаў МС.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Юрый Рубцоў



**Палітвязень, які вызначыўся сваімі «антыдзяржаўнымі» кашулямі, можа атрымаць чарговы, зараз ужо рэальны тэрмін зняволення ў калоніі**

Як паведамляе Радыё «Свабода», на дадзены момант Рубцоў знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання ў Пружанах, яму прад'яўлена абвінавачванне па артыкуле 415 (ухіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі) Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь і применена мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

Падставай да ўзбуджэння крымінальнай справы паслужыла тое, што Рубцоў чатыры разы адмовіўся ад прапанаваных яму вакантных пасад для працы, што ўтварае склад злачынства ў выглядзе ўхілення ад адбыцця пакарання. Рубцоў, у сваю чаргу, лічыў, што асуджаныя да абмежавання волі не горшыя за астатніх людзей і патрабаваў годнага заробку ў абяцаных кіраўніцтвам краіны $500.

Юры Рубцоў па тэлефоне паведаміў «Свабодзе», што абвяшчае галадоўку і адначасова байкот следству.

### Аляксандр Мілінкевіч



**Кіраўніка Руху «За Свабоду» «пракацілі» на выбарах рэктара Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў Літве.**

Новым рэктарам ЕГУ стаў прафесар Дэвід Полік, яго кандыдатуру 3 красавіка ўхваліў агульны сход заснавальнікаў.

Але Аляксандр Мілінкевіч запатрабаваў правесці паўторны конкурс на пасаду рэктара ЕГУ. Працэс выбараў рэктара, на ягоную думку, не выклікаў даверу ў студэнтаў, выпускнікоў і грамадзянскай супольнасці Беларусі. «Каб прасоўваць неабходныя ў ЕГУ рэформы, чалавек, які стане рэктарам універсітэта, павінен быць легітымны і мець падтрымку студэнтаў, акадэмічнай грамадскасці і грамадзянскай супольнасці», — сказаў Мілінкевіч.

Як лічыць Мілінкевіч, ёсць вялікая асцярога, што з абраннем Поліка ЕГУ стане дрэйфаваць у бок «рускага свету».

У мінулым годзе пасаду рэктара ЕГУ пакінуў прэзідэнт універсітэта Анатоль Міхайлаў, які кіраваў універсітэтам з моманту стварэння. Для абрання новага рэктара быў сфарміраваны камітэт па выбарах рэктара ЕГУ. У студзені Мілінкевіч прасіў беларусаў падпісаць калектыўны ліст з нагоды выбараў рэктара ЕГУ, у якім параўнаў выбары рэктара з прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі. Група беларускіх грамадскіх і культурных дзеячаў выказала недавер камітэту па выбарах рэктара ЕГУ з-за закрытасці яго працы. З падобнай заявай у пачатку студзеня выступілі і студэнты.

### Меліціна Станюта



**Лідар зборнай Беларусі па мастацкай гімнастыцы адкрыла для сябе чарговы сезон топ-спаборніцтваў на 2-м этапе Кубка свету ў Бухарэсце.**

Па выніках выступленняў яна стала ўладальніцай чатырох бронзавых узнагарод — у індывідуальным мнагабор'і, а таксама практыкаваннях з абручом, мячом і стужкай.

Пераможцай спаборніцтваў у мнагабор'і стала расіянка Яна Кудраўцава, ацэнка якой за выступ у чатырох відах склала 75,900 бала. На другую прыступку п'едэстала ўзнялася яе суайчынніца Маргарыта Мамун (73,800). Меліціна Станюта замкнула прызавую тройку, атрымаўшы 72,450 бала (абруч — 17,500, мяч — 18,400, булавы — 18,200, стужка — 18,350).

Што тычыцца асобных практыкаванняў, то Меліціне Станюце не ўдалося падняцца на п'едэстал толькі ў адным з іх — з булавамі. У кампазіцыях з абручом і мячом беларуску апярэджвалі толькі Яна Кудраўцава і Маргарыта Мамун. Па выніках практыкаванняў са стужкай на п'едэстал трапілі чатыры спартсменкі. Расіянкі Яна Кудраўцава і Аляксандра Салдатава падзялілі яго вышэйшую прыступку, набраўшы аднолькавую суму (па 18,500). Аналагічная сітуацыя адбылася і з бронзавымі прызёрамі. Па 17,750 бала атрымалі ад суддзяў Меліціна Станюта і азербайджанка Марына Дурунда. Срэбныя ўзнагароды ў гэтым практыкаванні не ўручаліся.



# «Рускі свет» і вернікі

Ганна МЫЗЕНКА

**«Дык вы журналісты? А як вы асвятляеце ўкраінскія падзеі?» — пытае нас з сяброўкай насельнік аднаго з беларускіх праваслаўных манастыроў.**

Туды мы трапілі не па працоўных справах. Таму пытанне заспявае нас непадрыхтаванымі. Спрабуем памяняць тэму гаворкі і хутка сыходзім. Папярэдне мы ўжо паспелі даведацца, што большая частка прыхаджан, якія наведваюць храм пры манастыры, дый самі святары, ухваляюць «апалчэнцаў» і лічаць вайну на паўднёвым усходзе Украіны грамадзянскай.

Пачалося ўсё яшчэ падчас трагічных падзеяў на Майдане ды акупацыі Крыма «зялёнымі чалавечкамі». «Вы мусіце разумець, што пасля Майдану да ўлады ва Украіне прыйшлі сапраўдныя бандыты», — даводзілі падчас казаняў прыхаджанам некаторыя святары. Не дзіва, што шмат хто з вернікаў потым свядома чапляў на вопратку георгіеўскую стужку, прызнаваўся ў нянавісці да ўкраінцаў і апраўдваў анексію Крыма выказваннямі кшталту: «Я за Святую Русь».

Адмовіцца ад гэтых поглядаў не прымусіў нават заліты крывёю Данбас. Больш за тое, шмат хто і дагэтуль упэўнены, што сепаратысты на паўночным усходзе Украіны бароняць менавіта праваслаўе.

Ну а там, дзе не прызнаюць незалежнага і свабоднага палітычнага выбару краіны-суседкі, як правіла, няма месца і каштоўнасцям незалежнай Беларусі. Манархія, вяртанне да ўлады цара, і Беларусь з Украінай як часткі вялікай Расійскай імперыі — вось чаго прагнуць прыхільнікі сучаснай версіі «рускага свету». Адкуль жа ўзяліся гэтыя погляды?

«Рускі свет» ніколі і не выветрываўся з Беларусі з таго часу, як у XVII стагоддзі адбылася першая поўная акупацыя Беларусі Расіяй, — кажа адзін з лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Павел Севярынец. — Вялася мэтанакіраваная праца, у тым ліку і праз царкву. Потым праз акупацыйныя дзяржаўныя ўстановы, праз школу, праз войска. Тое, што называюць зараз «рускім светам» — насамрэч маскоўскае імперскае паганства, яно прысутнічала тут у розных формах, тлела, часам захапляла ўсю Беларусь, калі краіна была пад акупацыяй Расійскай імперыі, перараджалася ў камунізм... З тым жа самым запалам былыя «чарнасоценцы», а цяпер палітрукі грамілі ўсё беларускае, нацыянальнае, сапраўды хрысціянскае... Усё гэта толькі розныя абліччы таго самага імперскага цмока, які поўзае тут ужо стагоддзі».

Гэткія погляды не перашкаджаюць Севярынцу заставацца праваслаўным вернікам. «Праваслаўная царква ў Беларусі — вялікая, — тлумачыць Павел, — там ёсць і беларускія святары з беларускім духам і чыстым хрысціянствам, а ёсць і тыя, хто, будзем так казаць, замутнёны шавінізмам ці нянавісцю. Царква — гэта частка грамадства, і ў ёй ад чалавечага не схавацца. Так, «Рускага свету» тут шмат, і яго распаўсюд мае даволі пагрозлівы характар. Але выходзіць з царквы з-за гэтага — значыць, цалкам аддаваць тысячагадовае светлае беларускае праваслаўе імперыі. Пасля падзеяў ва Украіне тут у некаторых прыходах можна пачуць дымок нецярпімых настрояў, але ў Бібліі сказана, што «брамы пекла царкву не адолеюць». Царква — не група рэлігійных чыноўнікаў, якія хочуць прадставіць маскоўскія інтарэсы як інтарэсы царквы, а гэта супольнасць вернікаў, якія вераць у Ісуса Хрыста — і любяць».

Сапраўды, сярод праваслаўных хапае і прыхільнікаў беларускай нацыянальнай ідэі. Яны прыходзяць на службы з бел-чырвона-белай сімволікай, без аніякіх праблемаў моляцца і спяваюць па-беларуску.

Беларускі гісторык Анатоль Валахановіч — каталік, але наведвае набажэнствы не толькі ў касцёле, але і ў праваслаўнай і ўніяцкай цэрквах. Беларуская мова для яго важны чыннік удзелу ў той ці іншай службе. Магчыма, таму ён часцей за ўсё бачыць навокал толькі аднадумцаў. «Я не сустракаў беларускіх вернікаў, якія маліліся б за «апалчэнцаў», нават не чуў пра такіх», — кажа спадар Анатоль.

Хапае ў Беларусі і апантаных нацыянальнай ідэяй праваслаўных святароў. Адзін з удзельнікаў Агульнага сходу епархій Мінскай мітраполіі распавядаў пра сваю спробу набыць царкоўны каляндар на беларускай мове падчас мерапрыемства. Ды вось толькі не паспеў: усе асобнікі былі прададзеныя...

Так ці інакш, пакуль пра гучныя канфлікты на ідэалагічнай глебе паміж праваслаўнымі вернікамі не чуваць. Аднак падзел паглыбляецца. Барані Божа Беларусь ад падзеяў, якія развядуць людзей па розныя бакі барыкадаў.

## Афіцыйная версія БПЦ

**Прадстаўнікі Беларускай праваслаўнай царквы сцвярджаюць, што паняцце «рускі свет» мае не этнічны, палітычны або моўны сэнс, а выключна духоўны. На гэту тэму журналістка НЧ Ганна Мызенка паразмаўляла са старшынёй Сінадальнага інфармацыйнага аддзела Беларускай праваслаўнай царквы протаіерэем Сергіем Лепіным.**



**Сергій Лепін.** Фота аўтара

***— Шмат у каго сёння «рускі свет» выклікае асацыяцыі з гэтак званай Наваросіяй, дзе людзі, маўляў, ваююць у тым ліку за праваслаўе.***

— Гэта аднабокая ацэнка. Лінія фронту не аддзяляе праваслаўных ад неправаслаўных. Хто ваюе супраць самаабвешчаных ДНР-ЛНР? У тым ліку праваслаўныя людзі. А хто ваюе на баку названых фармаванняў? Адны праваслаўныя? Не! Каго там толькі няма! Як ні парадаксальна, праваслаўе можа і павінна аб'ядноўваць у сваіх шэрагах людзей з абсалютна рознымі пунктамі гледжання. Сумна, але так бывае, што праваслаўныя трапляюць па розныя бакі барыкадаў — на жаль, у гэтым сэнсе яны не адрозніваюцца ад вернікаў іншых канфесій.

***— Ну а як быць з грамадскай думкай? Чаму беларускіх праваслаўных так часта вінавацяць у сімпатыях да апалчэнцаў на паўднёвым усходзе Украіны?***

— Нядобразычліўцы праваслаўя, і беларускага праваслаўя ў прыватнасці, натуральна, выкарыстоўваюць любую інфармацыйную нагоду, каб тэма праваслаўя трапіла ў негатыўны сюжэт. Але я лічу, што гэта несправядліва. Сярод беларускіх праваслаўных ёсць людзі, якія прытрымліваюцца абсалютна розных меркаванняў, па пытаннях Украіны ў тым ліку. І гэта нармальна! Мы не навязваем нікому «правільныя» меркаванні. Мы проста заклікаем людзей да малітвы пра мір ва Украіне. Ва ўсіх храмах падчас кожнай Літургіі чытаецца адпаведная малітва, дзе мы просім, каб Гасподзь пачуў Сваіх дзяцей, «в земли украинстей сущих». Там так і сказана!

***— Ведаю людзей, якія пераходзяць са сваіх прыходаў у іншыя, каб быць сярод аднадумцаў па пытаннях Украіны і Расіі. Ці не можа праз гэта адбыцца раскол у Беларускай царкве?***

— Якраз Царква павінна спрыяць пераадоленню расколу паміж людзьмі. Духавенства не можа ўдзельнічаць у палітычных баталіях, вырашаць, хто правы, хто вінаваты. Бо гэта не спрыяе яднанню паствы. Святар павінен абстрагавацца ад асабістых амбіцый, інакш ён не здолее ацаніць галоўнае і другаснае. Што галоўнае для святара? Прапаведаваць Хрыста, еднасць у Хрысце, а калі для яго больш важна казаць пра палітыку, хоць тое падзяляе і сварыць прыхаджан, то, на мой погляд, ён няправільна расстаўляе прыярытэты. Гэта прафесійная памылка. Ён сам жа вырывае тое, што насадзіў.

***— А калі весці гаворку пра тых, хто хоча, каб набажэнствы адбываліся па-беларуску, ці няма рызыкі Беларускай царкве быць абвінавачанай у нацыяналізме?***

— Сумна, але факт: ёсць людзі, якія менавіта так усё і ўспрымаюць. Яны нават эпізадычныя ўкрапіны беларушчыны ў набажэнствы ўспрымаюць не проста як нацыяналізм, а нацызм, беларускую «бандэраўшчыну», і люта абураюцца. Мы ж увесь час адсочваем інтэрнэт-форумы: адны нас вінавацяць у здрадзе праваслаўю, а іншыя — у здрадзе нацыянальным інтарэсам (пры тым кожны разумее па-свойму: і праваслаўе, і інтарэсы).

***— Гэта прыхаджане такое пішуць?***

— Падазраю, што не. Бо прыхаджане не могуць не любіць месца, дзе яны моляцца. Агрэсіўная палітыка ў дачыненні да праваслаўя магчымая толькі там, дзе хочуць выкарыстаць царкву, царкоўнасць у якасці падставы для прапаганды сваіх палітычных поглядаў. Нядобразычліўцы ёсць з усіх бакоў. Беларускаму грамадству зараз цяжка. Але калі мы ўжо ўзялі курс на паслядоўны няўдзел у палітыцы, то мы не можам уплываць на палітычную свядомасць. Мы і не павінны гэтым займацца, гэта місія тых, хто распаўсюджвае беларушчыну, беларускую мову, культуру — адпаведных міністэрстваў, навуковых, адукацыйных і мастацкіх устаноў. Тым не меней, я грамадзянін, і я спадзяюся, што яны будуць рабіць гэта ўсё лепей.

***— У некаторых цэрквах з «рускім светам» вельмі часта звязваюць імкненне да адраджэння Расійскай імперыі, вяртання цара, станоўчую ацэнку СССР як правапераемніка імперыі...***

— Існуе такі дакумент — «Асновы сацыяльнай канцэпцыі Рускай Праваслаўнай Царквы». Там ёсць раздзел «Дзяржава і Царква», дзе наўпрост сказана, што Царква не лічыць ніводную форму праўлення найлепшай. Усё астатняе з'яўляецца асабістым палітычным меркаваннем. Мы выходзім з таго, што ў грамадстве існуюць розныя пункты гледжання. Згодна з адным, мы — частка Расійскай імперыі, згодна з другімі — частка Рэчы Паспалітай, згодна з трэцімі, мы наогул не беларусы нават, а ліцвіны... Ну і няхай! Абы гэтыя людзі памяталі, што яны хрысціяне, што ім трэба маліцца, рабіць добрыя справы, каяцца і любіць бліжняга, нават і тады, калі ён не згодны з іхным палітычным выбарам.

***— А як ставіцца Беларуская праваслаўная царква да таго, што некаторыя святары апраўдваюць асобу Сталіна?***

— Мяне як прапаведніка насцярожвае эстэтызацыя сталінізму, апраўданне таго зла, з якім быў звязаны бальшавіцкі тэрор. Злачынствы сталінізму нельга абяляць, але трэба таксама пазбягаць аднабаковай дэманізацыі гістарычных персон. Тут палка з двума канцамі: у той час, як адны малююць Сталіна на абразах, іншыя — вешаюць усіх магчымых «сабак» на яго аднаго з жаданнем ва ўсім зрабіць вінаватым Сталіна і тым самым вывесці з-пад крытыкі саму сістэму... Трэба быць уважлівым і не забывацца, што гісторыю, як і вірусы, трэба вывучаць асцярожна — спрэчкі аб ацэнцы падзей могуць справакаваць паўтор саміх падзей. Якой бы ні была гісторыя, мне б вельмі хацелася, каб яна нас аб'ядноўвала, а не размяжоўвала.

# Цэны застануцца з намі

Таццяна ЛІСІЧЭНКА



**Памятаеце, Аляксандр Лукашэнка казаў пра «спыненне росту цэнаў для таго, каб людзі маглі годна адсвяткаваць Новы год»? Дык вось, елку ўжо можна выкідаць. Саўмін Беларусі адмяніў сваю пастанову №1207 ад 19 снежня 2014 года, якой забаранялася павышэнне коштаў на спажывецкія тавары і прадукты харчавання. Адбылося тое аж 4 красавіка. Нішто сабе Новы год адгулялі.**

### Бізнес-жудасць

Чаго гэтая пастанова каштавала бізнес-супольнасці і рынку, мы пабачылі на свае вочы, бо першапачаткова гэтая пастанова тычылася ўсіх тавараў, нават тых, якія ў краіну завозіліся толькі з-за мяжы.

І адразу ж абазначыўся дэфіцыт імпартнай садавіны і гародніны. Закупляць яе за валюту, асабліва пасля 40-працэнтнай дэвальвацыі беларускага рубля, каб потым прадаваць «па старых коштах», стала проста нявыгадна. Таму з паліцаў крамаў пачалі знікаць агуркі і таматы, ківі і бананы. Адгалосак гэтага дакаціўся да намесніцы міністра гандлю Ірыны Наркевіч, якая, калі яе запыталіся, дзе набыць памідоры, параіла журналістам пабегаць «за дэфіцытам» па горадзе, як у савецкія часы.

Наконт імпартных прысмакаў выказаўся нават Аляксандр Лукашэнка, які падчас сваёй вялікай прэс-канферэнцыі 29 студзеня прызнаўся, што бананаў ён не есць. Аднак ужо 3 лютага Мінгандаль сумесна з Мінэканомікай адрэагавалі дазволам падымаць кошты на імпартныя тавары.

Між тым, «імпартны складнік» прысутнічае ва ўсіх таварах, якія ствараюцца ў Беларусі. Найперш, гэта энерганосьбіты — газ і нафта, — якія мы набываем у Расіі. Банальна, нават павышэнне коштаў на бензін адбіваецца на коштах тавару, бо бензін патрэбны, каб давезці тавар да гандлёвых кропак. У гэтым сэнсе ўсе тавары ў нас — «з дамешакам валюты». Аднак кошты ўздымаць — ні-ні.

У выніку Белстат апублікаваў шакуючыя дадзеныя аб фінансавых выніках працы беларускіх кампаній у студзені 2015 года. Чыстыя страты беларускага бізнесу за студзень склалі $3 мільярды. У справаздачу не ўваходзяць банкі, страхавыя і бюджэтныя арганізацыі, а таксама дробны бізнес.

### Адпусцілі напалову

Тое, што ўлады зараз скасавалі забарону на рост цэнаў, зусім не азначае, што яны адпушчаныя «ў вольнае плаванне». Найперш, у росце коштаў ёсць вельмі моцны «бюракратычны складнік».

Так, пастанова Саўміна № 1207 ад 19 снежня 2014 года адмененая. Але варта зазначыць, што гэтая пастанова прымалася на аснове ўказа ад 5 снежня 2014 года № 567 «Аб дадатковых мерах па абароне правоў спажыўцоў». Менавіта яго меў на ўвазе Лукашэнка, калі казаў пра «годна адзначыць Новы год».

Між тым, указ №567 дзейнічае — яго ніхто не адмяняў. У гэтых варунках узнікае дваістасць у заканадаўстве, і вытворцы павінны пяць разоў падумаць, хто для іх важнейшы: Саўмін, які адмяніў сваю пастанову, альбо Лукашэнка, калі падпісваў указ.

На гэта празрыста намякнуў прадстаўнік Мінгандлю Павел Філіпаў, каментуючы адмену пастановы Саўміна. «Любое павышэнне цэнаў вытворцам або імпарцёрам павінна быць эканамічна абгрунтаваным. Усе цэны павінны быць канкурэнтаздольныя. Праца вытворцаў і імпарцёраў павінна быць накіраваная на зніжэнне выдаткаў вытворчасці і выдаткаў, звязаных з пастаўкай прадукцыі на спажывецкі рынак», — заявіў Філіпаў.

Ён дадаў, што «суб'екты гаспадарання павінны кіравацца агульнымі падыходамі ў заканадаўстве, якія тычацца цэнавага рэгулявання». А значыць, Мінэканомікі і Мінгандаль будуць і ў далейшым адсочваць «цэнавае рэгуляванне», і прымаць захады да тых, хто гэтае заканадаўства, на іх думку, парушае — аж да спынення працы прадпрыемстваў.

З 5 снежня Міністэрства гандлю спыняла працу 173-х гандлёвых аб'ектаў і аб'ектаў грамадскага харчавання, у тым ліку і за парушэнне заканадаўства аб цэнаўтварэнні. То бок, у сярэднім ён «закрываў» тры аб'екты ў два дні.

### Што будзе з коштамі?

Нягледзячы на спакусу ўзняць кошты пасля адмены пастановы Саўміна, імклівага падаражання не будзе. Цэны істотна не павысяцца. Гэта звязана не толькі з тым, што Мінгандлю і Мінэканомікі працягнуць сачыць за цэнаўтварэннем. Павышэнню не спрыяе сітуацыя з заробкамі беларусаў, асабліва пасля снежаньскай дэвальвацыі.

Паводле звестак Белстата, у студзені 2015 года сярэдні заробак у Беларусі зафіксаваны на ўзроўні 6 мільёнаў 23 тысячы 213 рублёў. У доларавым эквіваленце сярэдні заробак склаў 418,9 долара ЗША, што на 202,4 долара менш, чым у снежні 2014 года. У лютым, паводле таго ж Белстата, сярэдні заробак узняўся да 6 129 105 рублёў, аднак у доларавым эквіваленце знізіўся на 13 «зялёных» — да 405,9 долара.

А будзе яшчэ горш. Як ужо неаднаразова пісалася, шмат буйных, як казалі ў савецкія часы «горадастваральных» прадпрыемстваў зараз альбо поўнасцю стаяць, як галоўны канвеер МАЗа, альбо працуюць няпоўны працоўны тыдзень. Багата дзе працоўныя ў сувязі з вымушанымі прастоямі атрымліваюць толькі дзве трацiны заробку. Адпаведна, заробкі беларусаў, «падкошаныя» дэвальвацыяй, знізіліся яшчэ і ў залежнасці ад прадукцыйнасці працы. Ну якая можа быць прадукцыйнасць, калі завод стаіць?

Дый той заробак, які і так скараціўся, шмат каму не плацяць. Ізноў дадзеныя Белстата: у Беларусі запазычанасць па зарплаце вырасла ў параўнанні з лютым на 18,2 мільярда рублёў і на 1 красавіка склала 318,9 мільярда рублёў. Працадаўцы запазычылі заробак больш чым 90 тысячам чалавек у 518 арганізацыях краіны. Прычым, запазычанасцю адзначыліся не толькі традыцыйныя калгасы і саўгасы, але і такія прадпрыемствы, як ААТ «Мёрскі мясакамбінат», ААТ «Завод «ВІЗАС», філіял «Завод «Кранмаш» (Мінск), ЗАТ «Мантажлегмаш» (Мінск), ААТ «Маналітград» (Мінск), ТАА «Мінскі дом вокнаў». А адно з буйнейшых прадпрыемстваў будаўнічых матэрыялаў — ААТ «Забудова», — і ўвогуле збанкрутавала.

Так што пакупніцкая здольнасць насельніцтва зараз істотна знізілася. У такіх варунках падымаць цэны не вельмі слушна, бо купляць гэтыя тавары ніхто не будзе. Дай Божа, каб у людзей грошай на ежу хапіла.

## КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Справа пра забойства легпрама



**Як сведчыць Белстат, тавараразварот сталічнага рознічнага гандлю ў 2015 годзе ў параўнанні з 2014-м узрастае. У прыватнасці, у студзені-лютым павялічыўся на 5,8% адносна таго ж перыяду мінулага года (за сакавік-красавік дадзеных пакуль няма).**

Насельніцтва купіла прадуктаў харчавання больш на 4,4%, прамысловага шырспажыву — на 6,8%.

Калі так, то можна пагадзіцца з высновамі кіраўнікоў дзяржстатыстыкі, якія сцвярджаюць, што крызісу ў Беларусі няма, а ёсць нейкія дробныя і часовыя цяжкасці. Адзначым, што такое адметнае паскарэнне тавараразвароту адбывалася на фоне навагодніх святаў, калядных бонусаў работнікаў, а таксама пад уплывам дэвальвацыі рубля і прадпрымальніцкіх страйкаў. Так і атрымалася, што сярэдні гараджанін купіў тавараў на 8,1 мільёна рублёў супраць 6,8 мільёна летась.

У структуры рознічнага тавараразвароту 80,1% продажаў склалі арганізацыі гандлю і 19,9% — рынкі. Гэта значыць, з аднаго боку, буйныя крамы, з другога — дробныя крамкі і шматлікія індывідуальныя прадпрымальнікі на арандаваных гандлёвых кропках.

І калі ўжо высвятляць, хто забіў беларускую прамысловасць, вінаваціць у гэтым дробных гандляроў, як гэта робіць Лукашэнка, няма ніякіх падстаў. Бо буйныя крамы маюць не толькі большыя таварныя запасы, але і больш разнастайны асартымент. Да іх паслуг, акрамя гандлёвых плошчаў, аптовыя базы, уласныя складскія памяшканні ды іншыя даброты, чаго не маюць дробныя гандляры.

У ЦУМе, ГУМе, раённых універмагах сканцэнтравана амаль усё, што вырабляе беларуская лёгкая прамысловасць. Уключна з тымі запасамі, якія гніюць на фабрычных складах ды базах.

### Абы куплялі...

На жаль, у Беларусі спажыўцы часта заходзяць у крамы не купіць, ці хаця б прыцаніцца з мэтай паступовa назбіраць на пакупку, а быццам у музей, на экскурсію. Бо на самай справе, як бы хутка ні падвышаўся тавараразварот, насельніцтва застаецца бедным.

Пра гэта сведчыць і статыстыка, згодна з якой адзін сярэдні мінчанін выдаткоўвае ў месяц на пакупку прадуктаў харчавання 116 долараў і прамысловых тавараў — 154 долара. Няшмат, таму беларус, параўноўваючы свае заробкі і выдаткі з хатнім бюджэтам паляка ці літоўца, адчувае сябе бедняком. Гандляры таксама добра ведаюць сваіх пакупнікоў. Адпаведна, вызначаючь асартымент, плануюць продажы ў звязцы з выдаткамі.

У дробны гандаль трапляе толькі 1/5 частка спажывецкіх выдаткаў пакупнікоў. Прыблізна 54 долары ў месяц на аднаго сярэдняга пакупніка. З іх ён каля 30% (16 долараў) выдаткоўвае на пакупку прадуктаў харчавання, астатнія 38 долараў — на нехарчовыя тавары. У тым ліку 43% (16 долараў) на ўвесь легпрамаўскі асартымент — адзенне, бялізну, трыкатажныя вырабы, панчохі са шкарпэткамі.

Сярэднікі пакупнік на мінскім рынку выдаткоўвае штомесячна на панчохі ды шкарпэткі 8 цэнтаў, або 0,5% ад усёй сумы штомесячных затратаў на прамысловыя тавары.

Такая сума нават не ўспрымаецца пачуццямі, бо яна ёсць цалкам велічыня віртуальная. Тым не менш, уцягнутая ў гандлёва-грашовы тавараразварот, яна быццам бы распухае, робіцца падобнай да кашальку буйнога грошаўладальніка.

Атрымліваецца, што гэтыя 8 «панчошных» цэнтаў загубілі Беллегпрам. Як тая саломінка, што зламала хрыбет вярблюду. Між тым «адказны за караван» дваццаць гадоў таму атрымай вельмі прасунутую тады галіну, якая мела заказаў ад суседніх краін болей, чым магла выканаць.

Лукашэнка зараз, як заўсёды, згуляў з прадпрымальнікамі ў сур'ёзную гульню, якая ўжо, відавочна, заканчваецца чарговым і значным падвышэннем коштаў. Пастановай № 250 ад 31 сакавіка (абнародаванай чамусьці толькі 4 красавіка) Саўмін дазволіў падвышаць кошты ў параўнанні з тымі, якія дзейнічалі на 18 снежня 2014 г.

Але ці падвысіцца пры гэтым тавараразварот? Хутчэй, наадварот, паменшыцца. У першую чаргу, не ў дробнай розніцы, а ў буйных крамах, змушаных павялічыць беларускі асартымент. Хоць ён ужо запаланіў паліцы. Прыкладам, доля панчошна-шкарпэтнай прадукцыі дасягнула ўжо 80% у структуры тавараразвароту, доля трыкатажу — 60%, верхняга адзення, абутку — 50%.

Магчыма, такая прапорцыя ўжо з'яўляецца празмернай. Бо павялічэнне ўдзельнай вагі легпрама ў структуры прапановы непазбежна выклікае дэфіцыт імпартных тавараў. Зразумела, ажывіцца кантрабанда, адновіцца, як раней іранізавалі, «шпікуляцыя», але перш-наперш перабудуецца дробны гандаль. Новыя «чаўнакі», як паказала жыццё, здольны да асартыментных перабудоў на карысць пакупнікоў. У абыход усё новых і новых перашкод, што нагрувашчваюць на іх шляху ўлады.

Салідарнымі намаганнямі пакупнікі і камерсанты зноў абвалязь арганізаваны гандаль, а разам з ім канчаткова лясне і легпрам.

Адзін раз яму ўжо дапамог урад, зараз ён сваю справу даробіць.

TV

## 19 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.25** Меладрама «Маша і Мядзведзь».
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Кінараман «Лёс» (СССР).
**17.30** Меладрама «Знайдыш» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Дыялогі аб цывілізацыі.
**22. 05 Меладрама «Маскоўскія змрок» (Расія).**
**00.30** Камедыя «Кухня» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** «Зваротны адлік».
**11.30** «Брэйн-рынг».
**12.40** Горка!
**13.40** «Голас. Дзеці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Тэорыя змовы.
**17.15** «Рыхт-у-рыхт».
**20.00** Контуры.
**21.05** КВЗ. Вышэйшая ліга.
**00.00** «Праблiскі надзеі». Камедыя.

### СТВ

**06.00** «Студэнты International». Серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.15** «Беавульф». Мастацкі фільм.



**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Чалавек-амфібія».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**15.00** Дакументальны праект.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.15** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Неверагодная каханне». Мастацкі фільм.
**22.50** «Дакументальны праект».
**23.40** Масква. Дзень і ноч.
**00.35** «Чалавек-амфібія».

### Беларусь 2

**07.05** «Атрад адмысловага прызначэння». Мастацкі фільм.
**08.30** Турыст.
**09.15** Мультсерыял.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.15** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.05** Я хачу гэта ўбачыць!
**12.45** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.20** «Мама - дэтэктыў». Серыял.
**15.30** Мультфільм.
**16.55** Футзала.
**18.10** Comedy woman.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Футбол.
**21.50** «Ліга выбітных джэнтльменаў». Мастацкі фільм.
**23.55** Ікра.
**00.25** Вышэй за дах.

### Беларусь 3

**07.45** Калейдаскоп.
**07.55** «І на каменнях растуць дрэвы». Прыгодніцкая драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1985 г.).
**10.15** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Вячаслаў Клімовіч (Гомель).
**10.55** «Наперад у мінулае».
**11.20** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.15** Калейдаскоп.
**12.25** «Лёс гігантаў». «Запарожскі аўтамабілебудаўнічы завод».
**12.50** «Лёсы палонных генералаў». Дакументальны серыял. Фільм трэці «Кіеўская катастрофа».
**13.45** «Лёсы палонных генералаў». Дакументальны серыял. Фільм чацвёрты, заключны «Беларускія катлы».
**15.00** «Бекет». Гістарычная драма (Вялікабрытанія-ЗША, 1964 г.).
**17.20** Калейдаскоп.
**17.30** «Адзінка «з падманам». Сямейная камедыя (СССР, 1984 г.).
**18.40** «Культпрасвет».
**19.15** «Палёты ў сне і наяве». Драма (СССР, 1982 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калі можаш, прабач…» Меладрама (СССР, 1984 г.).
**22.25** «Культпрасвет».
**23.00** «Прывід оперы». Містычны трылер (Італія, 1998 г.).
**00.40** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Сэлфі.
**08.15** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Парагвай - Нарвегія.
**09.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Чвэрцьфінал. Агляд першых матчаў.
**10.10** Баскетбол. НБА. Плэй-оф.
**12.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Манчэстар Юнайтэд».
**13.55** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Дынама» (Мінск) - БАТЭ (Барысаў). Прамая трансляцыя.
**15.55** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» - Унікса (Казань). Прамая трансляцыя.
**17.45** Хакей. КХЛ. Фінал. Пяты матч. Прамая трансляцыя.
**19.15** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Парагвай - Бельгія. Прамая трансляцыя.
**20.20** Футзала. Чэмпіянат свету. Групавы этап. Беларусь - Уругвай.
**21.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**21.50** Сэлфі.
**22.05** Баскетбол. НБА. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**00.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Сіці» - «Вэст Хэм».
**02.15** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.15** Зона «Свабоды».
**08.50** «Госці», дак. фільм.
**09.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.00** Два на два (тэледыскусія).
**10.35** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**11.00** Казкі для дзетак.
**11.30** «Тры шалёныя нулі», тэлесерыял.
**12.00** Мова нанова: «Кіно».
**12.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**12.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.15** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.05** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.30** Блокпост «Грозны», рэпартаж.
**14.55** «Белы шквал», маст. фільм.
**17.00** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 5: «З М'янмы ў Бангкок».
**17.55** Форум (ток-шоу).
**18.35** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тэадор Нарбут.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** «Забойства ў Сараеве», дак. фільм, 2014 г., Германія.
**21.55** Кінаклуб: «Зімовая костка».
**22.05** «Зімовая костка», маст. фільм, 2010 г., ЗША.
**23.40** «Госці», дак. фільм.
**00.35** «Mad Men. Утрапёныя IV», камедыйны серыял.
**01.25** Блокпост «Грозны», рэпартаж.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______



> **Першым крокам на гэтым шляху стане стварэнне ў краіне на працягу двух гадоў**
> **20 тысяч футбольных школ (да 2025-га іх колькасць павінна вырасці ўвогуле да 50 тысяч)**

# Дракон з мячом

Алег НОВІКАЎ

**Пекін зацвердзіў амбіцыйны план, які павінен ператварыць кітайцаў у перадавую футбольную нацыю. Нашто Кітаю быць самай магутнай футбольнай дзяржавай планеты?**

Лічыцца, што гульню ў мяч у Кітай прывезлі на пачатку XX стагоддзя (Футбольная асацыяцыя ўзнікла тут у 1924 годзе). З таго часу асаблівага майстэрства кітайскі футбол не дэманстраваў. За ўсю гісторыю кітайская зборная толькі адзін раз, у 2002-м, прабілася на чэмпіянат свету, дзе вылецела ўжо на групавым этапе, не забіўшы ніводнага голу. Праўда, трэба ўзгадаць, што ў часы культурнай рэвалюцыі з 1958 па 1979 год Кітай адмовіўся гуляць у чэмпіянатах пад эгідай буржуазнай FIFA (Міжнароднай федэрацыя футболу) і, адпаведна, адстаў ад сусветных тэндэнцый. У цяперашнім рэйтынгу кітайцы займаюць сціплае 83-е месца, якраз пасля Гандурасу.

Беручы пад увагу агучаныя аспекты, цяжка верыцца ў тое, што за два гады справа ў гэтай галіне кардынальна палепшыцца. Аднак парадыгма бытавой логікі і партыйныя задачы, як вядома з гісторыі, часта не супадаюць. У Пекіне мяркуюць, што два гады — рэальны тэрмін для таго, каб вывесці кітайскі футбол у сусветныя лідары.

Менавіта такі амбіцыйны план быў зацверджаны Дзяржаўным саветам краіны. Ён складаецца з 50 пунктаў. Першым крокам на гэтым шляху стане стварэнне ў краіне на працягу двух гадоў 20 тысяч футбольных школ (да 2025-га іх колькасць павінна вырасці ўвогуле да 50 тысяч). Прычым займацца ў тых школах павінны, на думку кітайскай адміністрацыі, у тым ліку і дзяўчынкі. Таксама кітайскі ўрад запатрабаваў тэрмінова перакласці сем самых прызнаных сярод спецыялістаў лепшых у свеце кніжак па футбольнай тэорыі.

Кітайская асацыяцыя футбола фактычна больш не падпарадкаваная Мінспорту. Яна ператвараецца ў нейкі субдэпартамент пры апараце ўраду і пачынае фінансавацца асобна. Перападзе ад рэформы і простым футбалістам. Ёсць прапанова стварыць нейкі фонд, з якога дапамагаць фінансава слабым клубам, асабліва ў правінцыі, каб не дапусціць сыходу талентаў у багатыя каманды.

У прынцыпе, працаваць футбольным рэфарматарам давядзецца не на голым месцы. Хаця з лёгкай рукі Маа ўсе камуністычныя чыноўнікі былі абавязаныя любіць настольны тэніс, футболу як папулярнай гульні ўвагу заўжды надавалі. У 2004 годзе была створаная нацыянальная суперліга, у якой зараз гуляюць 16 клубаў, што, як правіла, прадстаўляюць гарады ўсходу краіны. Нават кітайская афіцыйная прэса прызнае, што спадарожнік футболу ў КНР — шалёная карупцыя. Існуе цэлая сетка падпольных букмекераў, якія праз функцыянераў суперлігі або асацыяцыі даюць хабары футбалістам і трэнерам. Як мінімум двое сяброў кіраўніцтва асацыяцыі былі арыштаваны за апошні час за ўдзел у падобных схемах.

Цікава, што ў кітайскую суперлігу не пускаюць клубы з Макао і Ганконгу (былыя калоніі, адпаведна, Партугаліі і Вялікабрытаніі), якія пасля рэінтэграцыі ў склад КНР захавалі нейкія дэмакратычныя парадкі. У Макао і Ганконгу існуюць свае футбольныя лігі.

Але за ўсёй гэтай футбольнай рэформай не зразумела адно — нашто кітайцам ганяць мяч не горш за бразільцаў? Калі верыць зацверджанаму плану, краіна павінна праз нейкі час прыняць у сябе чэмпіянат свету, і да гэтай даты падцягнуць сваю зборную, каб ёй не сорамна было перад усімі краінамі. Натуральна, добрая гульня кітайскіх футбалістаў перад сваімі трыбунамі — вельмі важная тэма, аднак наўрад ці гэтым інтарэс да футболу сярод кіраўніцтва КНР вычэрпваецца.

Спецыялісты звяртаюць увагу на тое, што ў афіцыйных дакументах шмат гаворыцца пра вялікую сацыяльную ролю футболу. «Футбол мае вялікі сацыяльны эфект, і яго вельмі любяць у масах», «гэта гульня дапамагае духу калектывізму», «футбол спрыяе марам пра эканамічнае сацыяльнае і культурнае развіццё», — адзначалася на пасяджэнні Дзяржсавету.

У гэтым плане не выключана, што флірт з футболам — частка глабальнай палітыкі. Ён можа быць неяк звязаны з апошняй кампаніяй супраць адыходу чыноўнікаў ад так званай камуністычнай этыкі. Гаворка пра з'яву, калі камуністы, якія зрабілі гешэфт на розных бізнесовых аферах, вядуць буржуазны лад жыцця, адным з сімвалаў якога з'яўляюцца заняткі тэнісам або бейсболам.

Папулярызацыя футбола як народнай гульні павінна дапамагчы аднавіць камуністычнай партыі свой імідж, як структуры, што звязаная з інтарэсамі простага люду.

Не выключана, што ўлады КНР палохае вестэрнізацыя кітайскай моладзі праз футбольную тэматыку. У краіне вельмі шмат фанатаў розных еўрапейскіх футбольных клубаў, асабліва тых, за якія гуляюць або гулялі спартоўцы кітайскага паходжання.

Культ футболу ў Кітаі, безумоўна, палепшыць імідж краіны ў Лацінскай Амерыцы і Афрыцы, куды зараз ідуць каласальныя кітайскія інвестыцыі і дзе футбол часта — не проста папулярная гульня, а фактычна адзін з палітычных чыннікаў.

Увогуле, кавалерыйскія атакі ў спорце адбываюцца ў краіне не першы раз. Напярэдадні пекінскай Алімпіяды 2008 года такім ж валюнтарысцкімі сродкамі адбывалася папулярызацыя лёгкай атлетыкі. Як бачым па выніках Алімпіяды (зборная КНР стала лідарам па залатых медалях), такая тэхналогія спрацавала і, напэўна, натхніла кітайскіх камуністаў на тое, каб заняцца спортам нумар адзін.

Адным словам — беражыся Гандурас!

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Крэмль вось ужо год як не каментуе рыторыку Лукашэнкі. У дакрымскія часы «высокапастаўленая крыніца», напэўна, зноў назвала б яго «вясковым хітраванам». Але цяпер Масква можа быць удзячная Бацьку ўжо толькі за тое, што той не выходзіць за рамкі традыцыйнай шматвектарнасці. Для Расіі цяпер не лепшы час жорстка патрабаваць ад Лукашэнкі вызначыцца, з кім ён. Праблема, аднак, у тым, што гэтага патрабуе ад Лукашэнкі Захад. Прычым патрабуе неадкладна.

**«Росбалт» (Расія)**

Рыхтуецца да саміту ў Рызе і Аляксандр Лукашэнка, паколькі Беларусь таксама з'яўляецца сябрам «Усходняга партнёрства», і Аляксандр Рыгоравіч вельмі зацікаўлены вярнуцца ў вялікую палітыку. Яго падганяюць нярадасная эканамічная сітуацыя (хоць праз Беларусь у абыход санкцый ідуць тавары ў Расію) і запланаваныя на восень чарговыя прэзідэнцкія выбары, на якіх ён будзе фаварытам, але хоча да перамогі далучыць міжнароднае прызнанне. Адсюль і інтэрв'ю з агенцтвам Bloomberg, у якім знайшлося месца і крытыцы Украіны за пасіўнасць падчас анексіі Крыма, і прызыву да ЗША больш актыўна ўмяшацца ў урэгуляванне на Данбасе, і дэманстрацыі гатоўнасці абараняцца ў выпадку агрэсіі Расіі, і сцвярджэнню, што «ў Еўропе ёсць горшыя за Лукашэнку дыктатары».

**УНІАН (Украіна)**

З часам, калі ў Мінску будзе прынята палітычнае рашэнне, аб'ём вайскова-тэхнічнага гандлю паміж Украінай і Беларуссю, асабліва ў галіне мадэрнізацыі ВПС, можа значна ўзрасці, паколькі МВФ вылучыў рэжыму Парашэнкі шматмільярдную дапамогу, якую можна выкарыстоўваць на ваенныя мэты. Нягледзячы на тое, што Масква і Мінск будуюць Саюзную дзяржаву, кіраўніцтва Беларусі мае ўласны, асобны ад пазіцыі Крамля, пункт гледжання на падзеі, што адбываюцца ва Украіне.

**«Независимая газета» (Расія)**

Безумоўна, стартавыя пазіцыі для майдана ў Беларусі крыху не тыя. Народ там спакайнейшы, рэжым — трывалейшы, а апазіцыя яшчэ больш нікчэмная, чым ва Украіне. Тым не менш элементы рызыкі прысутнічаюць і там, і недаацэньваць іх нельга. (...) Нельга забываць, што Лукашэнка знаходзіцца пры ўладзе ўжо больш за два дзесяцігоддзі, стаміў усіх, не мае адназначнага і папулярнага пераемніка. Самы час для эліты задумацца, што будзе далей. І адгадайце, у каго ёсць магчымасць заслужыць сабе месца ў гэтым «далей»?

**«Аргументы» (Расія)**

Гэты збор (Дэкрэт аб дармаедах) — спроба вырашыць эканамічныя праблемы Беларусі. Усё гэта вельмі добра дэманструе, што, на самай справе, карані беларускага эканамічнага цуду знаходзяцца тут, у Расіі. Тыя дзясяткі мільярдаў долараў, якія траціліся расійскім кіраўніцтвам на падтрымку беларускай вытворчасці, цяпер паступова пачынаюць змяншацца, як з-за таго, што Расія знаходзіцца ў стане крызісу, так і з прычыны таго, што Беларусь усё больш дэманструе некаторую дваістасць сваёй палітыкі. Гэта крызіс ідэй, каб знайсці нейкія новыя шляхі для развіцця Беларусі.

**«Коммерсант» (Расія)**

Пагадненне па Іране пазбавіць Расію амаль манапольных адносін з Іранам, зменіць ролю Тэгерана на Каўказе і створыць новы вектар, паралельны расійска-турэцкаму. Не дарма перамовы ў Лазане суправаджаліся цікавымі заявамі. У прыватнасці, прэзідэнт Беларусі Лукашэнка ў інтэрв'ю Bloomberg зрабіў некалькі заяваў з нагоды неабходнасці непасрэднага ўдзелу ЗША ва ўрэгуляванні ўкраінскага крызісу, а таксама заявіў, што Беларусь не стане губерняй Расіі, адхіліўшы прапанову Пуціна аб адзінай валюце. Не выключана, што такая смеласць Лукашэнкі была абумоўлена пазітыўнымі тэндэнцыямі ў іранскіх перамовах, якія зменяць сітуацыю не толькі на Каўказе, але і ва ўсёй Усходняй Еўропе.

**«Iragir» (Арменія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Як казахі сталі еўрапейцамі

Казахская грамадскасць адзначае незвычайны юбілей. 170 гадоў таму з карты сучаснага Заходняга Казахстана знікла невялікая квазідзяржава, якая праіснавала менш паўстагоддзя, з 1801 па 1845 гады. Гэта было так званае Букееўскае ханства — казахская аўтаномная дзяржава пад патранатам Расіі. Гісторыя ханства пачынаецца з таго, што адзін з ханаў Малодшага жуза Букей у 1799 годзе накіраваў ліст імператару Паўлу І, у якім прасіў пра дазвол часткі казахаў перабрацца на правы бераг Урала, дзе на аграмаднай тэрыторыі не было амаль ні душы. Імператар даў згоду, і ў 1801 годзе 5000 кібітак пераправіліся на правы бераг Урала, паклаўшы пачатак шырокай міграцыі — да 1828 года тут пражывалі ўжо 10 235 сем'яў. Да трох казахскіх ханстваў дадалося чацвёртае, якое, аднак, было прынцыпова іншым, паколькі будавалася па еўрапейскіх стандартах. У Букееўскім ханстве быў апарат чыноўнікаў, медычная сістэма, сетка пачатковых школ і нават музей. Вопыт Букея і яго нашчадкаў лічыцца ў цяперашнім Казахстане ледзь не першай спробай стварэння свецкай казахскай дзяржавы.

**Паводле казахскай прэсы**

### ЗША. Хто на прэзідэнта

Джэб Буш — сын Джорджа Буша-старэйшага і брат Джорджа Буша-юніёра — магчыма, страціў шансы працягнуць працоўную дынастыю Бушаў-прэзідэнтаў. Прыкладна праз месяц пасля таго, як Джэб абвясціў пра свой намер балатавацца ў прэзідэнты ў 2016 годзе, стала вядома, што ў электаральным рэгістры ў 2009 годзе ён пазначыў сябе як «іспанец». У прынцыпе, ён мог зрабіць гэта аўтаматычна з улікам таго, што моцна звязаны з лацінаамерыканскай культурай. Яго жонка — мексіканка, будучы юнаком ён жыў у Венесуэле, а пасля стаў губернатарам Фларыды, дзе іспанская мова гучыць на кожным кроку з-за прысутнай у штаце моцнай кубінскай дыяспары. Але, як бы там ні было, назваць сябе іспанцам, азначае страціць частку прыхільнікаў рэспубліканскай партыі, ад якой балатуецца Джэб. Сам віноўнік скандалу і яго каманда намагаюцца трактаваць тое як памылку або жарт. Гэта тлумачэнне, у сваю чаргу, выклікала інтарэс адпаведных органаў Фларыды, паколькі фальшывая інфармацыя ў электаральным рэгістры караецца штрафам у 5 000 долараў або турэмным тэрмінам на 5 гадоў.

**Паводле іспанскай прэсы**

### УКРАІНА. Нашто Майдану прызнаваць генацыд армян

3 красавіка ва ўкраінскім парламенце зарэгістраваны незвычайны законапраект. Дэпутат ад групы «Адраджэнне» прапанаваў забараніць ва Украіне адмаўленне генацыду армян. І хаця падобныя законы існуюць у некаторых краінах свету і тычыцца тых, хто адмаўляе факт армянскіх пагромаў у Асманскай імперыі ў 1915 годзе, публіка была шакаваная такой ініцыятывай. Перш за ўсё, такі крок можа сапсаваць адносіны з афіцыйнай Анкарой, чыя пазіцыя вельмі важная для Кіева. Не палепшацца пасля гэтага і адносіны з Азербайджанам — саюзнікам Турцыі і партнёрам Украіны па стварэнні альтэрнатыўных СНД структур. Узніклі плёткі, што закон лабіруе Арсен Авакаў — этнічны армянін, кіраўнік украінскага МУС, які ў 2003 годзе беспаспяхова заклікаў Вярхоўную раду прызнаць генацыд армян. Пазней высветлілася, што дэпутат, які прапанаваў законапраект, быў не так даўно з візітам у Арменіі, дзе, хутчэй за ўсё, нешта паабяцаў. Такая інфармацыя трошкі супакоіла палітыкум і журналістаў, хаця дарагія білборды ў Кіеве з заклікам асудзіць генацыд могуць сведчыць, што за ініцыятывай стаяць больш уплывовыя сілы.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### Шатландыя. Суверэнітэт і пагроза Трэцяй сусветнай вайны

Адзін з амерыканскіх правых аналітыкаў пралічыў, што перамога шатландскіх незалежнікаў на рэферэндуме 18 верасня 2014 года магла прывесці да глабальнага канфлікту. Пасля абвяшчэння суверэнітэту Шатландыі гісторыя магла развівацца па лініі нарастаючага супрацьстаяння Лондану і Эдынбургу, у якое паступова зацягваліся краіны-суседзі. Першым этапам канфлікту сталі б дэбаты наконт прызнання каралевы Вікторыі каралевай горцаў. Напружанасць прывяла б да праблемаў на Шатландскіх выспах, што з'яўляюцца галоўным пастаўшчыком газу і нафты для ўсёй Брытаніі. Перспектыва дэфіцыту энергіі прымусіла Лондан акупаваць Шатландыю, што прывяло б у Эдынбургу да ўлады хунты нацыяналістычнага-генералаў. Паколькі эканоміка перажывае крах, Шатландыя звяртаецца па дапамогу да Масквы і Пекіна і правакуе памежныя канфлікты для падтрымання ўнутры краіны нацыяналістычнай істэрыкі, напрыклад, пасылае дэсант вызваляць братоў-кельтаў у Паўночнай Ірландыі. NATO, адпаведна, рэагуе — і прыкладна ў 2030 годзе пачынаецца канфлікт. Вось такі прагноз.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Калі б не было Майдану…

*Алег НОВІКАЎ*

**Калі б не было Майдану, то 29 сакавіка 2015 года мусіў адбыцца другі тур прэзідэнцкіх выбараў ва Украіне. Што чакала б Украіну і наш рэгіён у выпадку другой кадэнцыі Януковіча — адна з тэм украінскай палітычнай дыскусіі.**



Складаць першыя сцэнары альтэрнатыўнай гісторыі Украіны, якая б не ведала феномену Майдану, пачалі яшчэ ўвосень, напярэдадні гадавіны выступаў за падпісанне Асацыяцыі з Еўрасаюзам. Цяпер жа тых гістарыяграфічных канцэптаў так шмат, што можна нават зрабіць невялікі каталог.

Пачнём з крытыкаў Майдана, якія актыўна прасоўваюць ідэю, што непапулярны Януковіч і так быў асуджаны на паразу. Асабліва той трэнд стаў відавочны пасля гучнага скандалу летам 2013 года ў пасёлку Урадзіеўка на Херсоншчыне. Там мясцовая міліцыя пад дахам улады забівала і гвалтавала кабетаў, што прывяло да бунту. Пасля гэтага нянавісць да сілавікоў ва Украіне стала павальнай з'явай.

Такім чынам, калі верыць сябрам Антымайдану, нават мабілізаваўшы ўсю вертыкаль, Януковіч не здолеў бы ў сакавіку 2015 года пераабрацца на другую кадэнцыю. Хутчэй за ўсё, яго апанентамі на гэтых выбарах выступалі б Клічко або Парашэнка, якія ў другім туры абышлі б лідара Партыі рэгіёнаў на 2–3 працэнты. Прыход апазіцыі да ўлады ў такім фармаце не спраўкаваў бы сепаратысцкай хвалі на паўднёвым усходзе краіны і ў Крыме, і наўрад ці адбіўся б на курсе грыўні, паказніках эканомікі. Адсюль выснова — Майдан быў авантурай купкі палітыкаў і алігархаў, што вельмі дорага каштавала ўкраінскай дзяржаве.

Такі пункт гледзішча падзяляе, напрыклад, аўтарытэтны ўкраінскі палітолаг Міхаіл Пагрэбінскі. «Сёння ў нас была б новая ўлада, прэзідэнтам быў бы, хутчэй за ўсё, Віталь Клічко. Мы б павольна рэфармавалі і пазбаўляліся б ад такой вар'яцкай карупцыі. Захавалі б сувязі з Расіяй. Гэта азначала б пэўную перспектыву захавання ВУП… Я ведаю, якую нянавісць ён (Януковіч) зарабіў. Нават сярод свайго асяроддзя, не гаворым пра людзей, якіх «прыбралі ад карыта». Алігархі толькі і думалі, як пазбавіцца ад Януковіча, чакаючы спрыяльнага моманту. Ніякіх шанцаў перабрання ў Януковіча не было», — кажа аналітык.

У канструкцыях антымайданаўцаў ёсць слабае звяно: ці дапусціў бы Януковіч правядзенне вольных выбараў? Напярэдадні лістападаўскіх пратэстаў поўным ходам ішла палітычная зачыстка. Відавочна, рыхталіся масавыя фальсіфікацыі (у сеціве называюцца канкрэтныя кошты — 1 200 грыўняў планавалася плаціць электарату за правільны выбар).

З улікам апісаных момантаў — закручванне гаек на фоне росту пратэстных настрояў — выбух выглядае папросту непазбежным. Як піша Мустафа Найем — адзін з ініцыятараў студэнцкіх пратэстаў, «у мяне не было і няма адчування, што Майдан не здарыўся б без мяне. Усе разумелі, што пратэсты будуць. Але чакалі іх у 2015 годзе, падчас чарговых прэзідэнцкіх выбараў. Тое, што гэта адбылося раней — вынік супадзення велізарнай колькасці абставінаў». «Украіна была цяжарная рэвалюцыяй, проста адбыліся заўчасныя роды», — адзначае кіраўнік Цэнтра прыкладных палітычных даследаванняў Уладзімір Фясенка.

Найем, Фясенка і іншыя лічаць, што скрынку Пандоры адчыніла Масква, даслаўшы «зялёных чалавечкаў» у Крым. Без падтрымкі Масквы рускамоўныя рэгіёны, пасіўна адрэагавалі б на сыход Януковіча. «Вайна выкліканая выключна расійскай пазіцыяй, а не ўнутранымі ўкраінскімі праблемамі. Любое наша памкненне адарвацца ад уплыву РФ прывяло б да падобнай барацьбы ў той ці іншай форме. Мы ўсё роўна атрымалі б Усход, Крым. Майдан не мае значэння», — мяркуе Уладзімір Фясенка.

Некаторыя блогеры нават спрабуюць уявіць, як выглядаў бы сённяшні ўкраінскі палітычны працэс без «крымскай вясны». «Добраахвотніцкіх батальёнаў няма. Армія задуменна глядзіць на свае танкі, спрабуючы зразумець, ці могуць тыя страляць і ездзіць. Тых, хто гаворыць пра ваенную пагрозу з боку Расіі, называюць правакатарамі. У Крым прызначаная кампрамісная фігура новага губернатара. «Беркут» перайменавалі ў «Кондар» і пакінулі ў штаце МУС. На Данбасе прызначаныя новыя губернатары, якія паўтараюць пра тое, што стабільнасць рэгіёну найперш. Ігар Стралкоў едзе на фестываль рэканструктараў, прысвечаны 100-годдзю Першай сусветнай… Гэты спіс можна працягваць і ўдакладняць. Але факт у тым, што Украіна 2014-га магла значна больш быць падобнай да Украіны 2005-га. Уся рэальнасць апошняга паўгоддзя — гэта не вынік украінскай рэвалюцыі. Гэта вынік расійскай контррэвалюцыі», — падсумоўваюць на старонках інтэрнэту.

Яшчэ адна цікавая тэма для спекуляцый: што было б, калі Януковіч утрымаўся пры ўладзе і застаўся б прэзідэнтам да 2020 года. Амаль усе згодныя, што гэта быў бы час радыкальнай трансфармацыі ўкраінскай мадэлі, якая склалася ў часы Кучмы і для якой была характэрная геапалітычная шматвектарнасць, дастаткова шырокія грамадзянскія свабоды. Праўда, гэта было б абумоўлена паліфаніяй алігархічных цэнтраў.

Напрыклад, той жа Найем лічыць, што пры Януковічы Украіна імкліва імпартавала б беларускія напрацоўкі.

«Яскравым прыкладам таго, у якой краіне мы маглі б жыць, былі апошнія месяцы праўлення Януковіча — паскораны курс савецкай гісторыі. Гэта была краіна, у якой выкрадалі актывістаў, катавалі людзей, дзе адбываліся паказальна несправядлівыя суды, дзе расстрэльвалі мірных дэманстрантаў у цэнтры сталіцы», — гаворыць дырэктар Украінскага інстытута нацыянальнай памяці Уладзімір Вятровіч.

А вось «Украінская газета» лічыць, што галоўнай характарыстыкай другой кадэнцыі Януковіча магла стаць кампанія па русіфікацыі гуманітарнай сферы. На думку выдання, украінскія падручнікі былі б перапісаныя пад расійскі стандарт.

Найбольш далёка пайшоў эксперт цэнтра «Гардарыка» Канстанцін Матвіенка. На яго думку, на працягу другога тэрміна Януковіча мела адбыцца канчатковая інкарпарацыя Украіны ў Расію. «Выбары–2015 азначалі б паглынанне Украіны Расіяй. План Пуціна складаўся ў тым, каб усю Украіну далучыць да Расійскай Федэрацыі з дапамогай «законнага» рэферэндуму, як гэта адбылося ў Крыме. Гэта была б другая Пераяслаўская рада», — гаворыць Канстанцін Матвіенка.

Усе разважанні наконт Украіны без Майдану маюць умоўны лад. Але такія экскурсы думкі дапамагаюць лепш зразумець прычыны падзей восені 2013 года, прыроду тагачаснага ўкраінскага рэжыму і ўчынкаў геапалітычных актараў.



«Эль Паіс» перадрукавала гэта фота агенцтва «Рэйтар» з подпісам «Касавар з дзіцём спрабуе нелегальна перайсці мяжу Сербіі і Венгрыі»

# Касавары ідуць

Алег НОВІКАЎ

**Косава ахапіла мода на эміграцыю. Не ад добрага жыцця. Толькі з восені мінулага года край пакінуў кожны дзясяты чалавек.**

Увогуле, гэта не першы ў гісторыі масавы сыход албанскіх касавараў. Напрыканцы 90-х гадоў шмат іх перамясцілася ў суседнія Албанію і Македонію з-за абвастрэння албанска-сербскага канфлікту, што прывёў да брутальных этнічных чыстак. Аднак нават у разгар вайны статыстыка міграцыі не была такой кепскай, як сёння.

Калі верыць нямецкай прэсе, якая доўгі час займаецца балканскай тэматыкай, каля 50 тысяч чалавек за апошнія паўгады з'ехалі з краю, і гэта яшчэ не фінал, паколькі 30 тысяч з іх збеглі за два апошнія месяцы. Прычым у эміграцыю падаецца актыўная частка грамадства. Сярэднестатыстычны партрэт мігранта з Косава — малады чалавек, які вучыцца або толькі стварыў сям'ю. Косаўскія крыніцы пішуць, што ў мясцовых ВНУ за апошні год студэнтаў паменела тысяч на пяць.

Самае парадаксальнае, што сімвалічным стартавым свістком да бежанства стаўся доўгачаканы ў Брусэлі сербска-касаварскі дыялог, які павінен быў прывесці да прызнання Бялградам сепаратысцкай рэспублікі, што ў 1998 годзе абвясціла незалежнасць. У жніўні мінулага года Прышціна і Бялград падпісалі дамову пра вольны рух грамадзян Косава. З таго часу з косаўскімі дакументамі можна без праблем транзітам ехаць праз сербскую тэрыторыю.

Дзякуючы той дамове ўзнік сапраўдны канал, які пачынаецца на вакзале ў Прышціне, адкуль кожны вечар каля тузіну аўтобусаў едуць на поўнач. Фінальны прыпынак — у горадку Субоціца, што на сербска-венгерскай мяжы. Цяпер застаецца толькі трапіць у ЕС. Найбольш просты сродак перасекчы кардон — набыць сербскі пашпарт, які дазваляе вольна наведваць Шэнген. Калі верыць сербскаму МУС, за апошнія паўгады сербамі было прададзена налева каля 60 тысяч пашпартоў Сербскай Рэспублікі. Таксама карыстаецца попытам такі традыцыйны метад, як хабар сербскім і венгерскім памежнікам. Як правіла, такса за пераход — 200 еўра.

Што прымушае касавараў да эміграцыі? Найперш, зацяжны эканамічна-структурны крызіс. Косава — самая бедная краіна Еўропы, дзе каля 34 працэнтаў жывуць за мяжой беднасці. Беспрацоўе дасягае 45 працэнтаў. Нармальным лічыцца штомесячны заробак у 80 еўра. Таксама на рост міграцыйных настрояў уплывае палітычная карупцыя ў органах улады, якая пазбаўляе моладзь надзей на сацыяльны ліфт.

Пакуль еўрапейцы толькі пачынаюць канстатаваць праблему эміграцыйнай хвалі з Косава. Найбольш заклапочаная Германія, куды, як правіла, накіроўваюцца касавары. Ужо ў студзені яны сталі другой нацыяй па колькасці заяў з просьбай пра палітычны прытулак (першае месца належыць сірыйцам). Пакуль што Брусэль адрэагаваў рашэннем распачаць прапагандысцкую кампанію ў косаўскіх СМІ і на сербска-венгерскай мяжы. У матэрыялах распаўсюджваецца, што ніводная краіна ў ЕС не разглядае касавараў як палітычных бежанцаў, і прытулак ім не свеціць. Адпаведна, іх чакае адмова ў статусе ўцекача, пасля чаго яны павінныя за свае сродкі пакінуць Шэнген на працягу двух тыдняў, каб не трапіць у чорны візавы спіс.

Дапаможа гэта або не, цяжка пакуль сказаць, асабліва з улікам таго, што албанская дыяспара — дастаткова моцная ў ЕС, кантралюе некаторыя шэрыя сегменты эканомікі і здольная працаўладкаваць частку землякоў.

Пакуль з дакладнасцю кажуць пра рэальную пагрозу выбуху ксенафобіі супраць усходнееўрапейскіх імігрантаў. Не маючы правоў на працаўладкаванне, албанцы-нелегалы будуць вымушаны дэмпінгаваць на працоўным рынку, каб знайсці працу.

Па меркаванні шэрагу еўрапейскіх палітыкаў, касавары менш экзальтавана ставіліся б да ідэі працоўнай эміграцыі ў ЕС, калі б мелі магчымасць наведваць ЕС і, як вынік, не ідэалізавалі б еўрапейскія рэаліі. Таму ўжо зараз прапануецца пачаць сур'ёзную размову наконт лібералізацыі візавай палітыкі ЕС з краінамі-суседзямі.

**НАСЕЛЬНІЦТВА — 1,6 МЛН.**

**БЕСПРАЦОЎНЫЯ — 45%**

**Заява пра наданне прытулку ў Германіі:**

**Студзень 2014 г. — 1 956**

**Студзень 2015 г. — 3 630**



## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Кубанычбек Кулматаў



Мэр і гарадская адміністрацыя Бішкека нечакана для ўсіх вырашылі адмовіцца ад георгіеўскіх стужачак на 9 мая. Да 70-годдзя Перамогі Бішкек упрыгожаць у чырвона-жоўтых колерах — колерах дзяржаўнага сцяга. Вось як патлумачыла гэту ідэю віцэ-мэр сталіцы Айгуль Рыскулава: «У гэтым годзе мы хочам выкарыстоўваць колеры кіргізскага сцяга — чырвоны і жоўты. На плошчы мы павесілі сцягі, такія ж чырвона-жоўтыя стужачкі выкарыстоўваем і пры ўпрыгожванні горада напярэдадні Дня Перамогі. Мы назвалі яе стужачкай Перамогі. Чаму б не прыдумаць нешта сваё?» — сказала яна. Пазней пайшлі чуткі, што загад забараніць георгіеўскую стужку прыйшоў у мэрыю з адміністрацыі прэзідэнта. Акрамя афіцыйнай версіі, ёсць і іншая. На думку экспертаў, у Бішкеку вырашылі адмовіцца ад георгіеўскай стужкі ў сувязі з тым, што гэты сімвал некаторыя спрабуюць звязаць з паўстаннем 1916 года. Справа ў тым, што кіргізаў, якія ўзнялі антыцарскае паўстанне, падаўляла расійскае войска. Адным з яго з сімвалаў была ўзнагарода — георгіеўскі крыж, на базе колераў якога створана георгіеўская стужка.

### Цьеры Мандон



Міністр Францыі па правах роўнасці вынайшаў абсалютна незвычайнае вырашэнне праблемы росту ісламскага экстрэмізму. Чыноўнік прапанаваў у якасці прафілактыкі павялічыць удвая колькасць мячэцей у краіне, прычым на працягу ўсяго двух гадоў. «Дэфіцыт месцаў для малітваў французскіх мусульман прымушае некаторых з іх сыходзіць у радыкалізм», — аргументаваў сваю прапанову Цьеры. Па яго словах, калі мусульмане робяць намаз у гаражах або прыватных кватэрах, у іх узнікае адчуванне прыгнёту з боку французаў. На цяперашні момант у Францыі, дзе пражывае каля 7 мільёнаў мусульман, працуе 2200 мячэцяў. Ідэю міністра горача падтрымаў кіраўнік галоўнай французскай мячэці — Вялікай парыжскай мячэці. А вось прадстаўнікі правага спектру французскай палітыкі ў асобах лідараў «Нацыянальнага фронту», наадварот, заявілі, што будуць выступаць супраць цэнтралізаваных рашэнняў па гэтай праблеме, пакідаючы мясцовым органам права забараняць або дазваляць будаўніцтва ісламскіх храмаў.

### Павал Крашанiннiкаў



Старшыня камітэту расійскай Дзяржаўнай думы па заканадаўству ініцыяваў перарэгістрацыю ўсіх існуючых у краіне партый, што можа прывесці да змены расійскага палітычнага пейзажу. Такім чынам, усе партструктуры РФ павінны да 1 жніўня прайсці абавязковую перарэгістрацыю. Фармальнай прычынай называецца новая рэдакцыя Грамадзянскага кодэкса, якая змяніла арганізацыйна-прававыя формы існавання партый. На першы погляд, нічога жудаснага — у афіцыйнай назве кожнай з арганізацый абавязкова павінны прысутнічаць словы «палітычная партыя». Аднак практычна ўсе эксперты лічаць, што патрабаванне Крашаніннікава — гэта тэхнічны сродак, каб скараціць колькасць палітычных партый. Па-першае, да 1 жніўня некаторыя проста не змогуць правесці федэральныя сходы для прыняцця паправак, не кажучы пра тое, што заўжды можна прычапіцца да дробязей. У кулуарах Дзярждумы не хаваюць, што плануюць спыніць эксперымент часоў Мядзведзева, які спрасціў рэгістрацыю партый у Расіі. Пасля той рэформы колькасць партый вырасла прыкладна з дзесяці да цяперашніх 77. Зараз усе гадаюць, колькі структур застанецца пасля 1 жніўня.

# Алесь Аркуш: «Трэба заўсёды

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Можна прывесці шмат прыкладаў, калі пісьменнікі свядома абіралі рэгіянальныя адрасы. Зусім не ў пошуках правінцыйнай цішыні, а ў імкненні жыць сапраўдным жыццём. Алесь Аркуш з гэтай кагорты. Усё сваё жыццё ён нечага прагне. Перш за ўсё — перамен. І не толькі літаратурных.**



Алесь Аркуш (справа) з Уладзімірам Арловым. Полацак, 2009 г.

## Прага непадпарадкавання

Вядома, што радавод кожнага з нас умоўна дзеліцца на два напрамкі: «па кудзелі» і «па мячу». То бок па лініі маці і па лініі бацькі. Абодва дзяды паходзяць са Смалявіцкага раёна.

Дзеда «па кудзелі» звалі Захарам Андрэевічам. Без перабольшванняў ён быў унікальным чалавекам. У маладосці са стрыечным братам з'ехаў у Амерыку зарабляць грошы. Пасля вяртання ў 1917 годзе на бацькоўскім хутары Арлова пачаў ладзіць сваю сельскую гаспадарку.

Калі пачаліся калгасы, яму загадалі перавесці дом у вёску Бабін Лес. Там на могілках, дзе капліцу пабудавалі мае продкі, ён і пахаваны. На пераезд дзед не пагаджаўся. Двойчы яго арыштоўвалі. Адзін раз напісалі ў даносе, што агітуе супраць калгасаў, але сяляне з суседніх вёсак пачалі дружна сведчыць, што гэта подлы паклёп. Двойчы вызвалялі з турмы.

1941 год. Дзеду Саветы сказалі — або перавозіш свой дом, або едзеш у ГУЛАГ. Дом ён ужо разабраў, але перавезці не паспеў. Пачалася вайна. Дом склаў на ранейшым месцы.

Аўтарытэт дзеда быў такі высокі, што, калі немцы пачалі ствараць уладу, сяляне аднагалосна абралі яго старастам.

Калі ноччу прыйшлі партызаны і хацелі дзеда расстраляць, то з усяго наваколля збегліся з чапёламі бабы і сказалі:«Калі Захарку кранеце, будзеце мець справу з намі...» І тыя прапанавалі дзеду «працаваць на партызан».

Словам, так атрымалася, што ён, руплівы гаспадар на ўласнай зямлі, быў «ворагам» для ўсіх тагачасных уладаў.

Дзед пачаў выконваць заданні партызан. У прыватнасці, ездзіў у Смалявічы за прадуктамі і іншымі рэчамі, прывозіў адтуль і карысную інфармацыю для партызан. Адна з такіх паездак закончылася трагічна. Аднойчы, калі вёз партызанам торбу з цыгарэтамі, яго спынілі паліцаі, пачалі высвятляць, куды столькі цыгарэт, моцна збілі. Дзед упарта казаў, што збіраецца іх мяняць з чыгуначнікамі на хлеб. Дзеда, ледзь жывога, адпусцілі, а цыгарэты забралі. Хутка Захар Андрэевіч ад збіцця памёр. Было гэта ў 1944 годзе, перад самым вызваленнем.

Напэўна, ад дзеда Захара і перадалася мне прага свабоды, прага непадпарадкавання і імкненне да самастойнасці.

Дзед «па мячы» быў начальнікам жодзінскай чыгуначнай станцыі. Трэба было прапусціць апошні савецкі эшалон, які ішоў у тыл, таму эвакуявацца яму не дазволілі. Прыйшлося, як кажуць, застацца «на часова акупаванай тэрыторыі». Зразумела, савецкія спецслужбы ўсіх іх завербавалі, і яны актыўна кантактавалі з партызанамі, якім дапамагалі не толькі інфармацыяй.

Аднойчы да яго прыйшоў добра знаёмы немец і папярэдзіў пра арышт і пра тое, што ў дзеда, каб збегчы, застаецца адна ноч. Той пасадзіў на падводу ўсю сваю сям'ю, і яны ноччу ціхенька з'ехалі ў партызаны.

Ваяваў дзед у атрадзе «Смерць фашызму», а звалі яго Антонам.

У дзеда Антона было шасцёра дзяцей, а ў дзеда Захара — васьмёра. Імя майго бацькі — Барыс, а маці — Ганна. Пазнаёміліся яны ў Жодзіна. Спачатку гэта было невялікае мястэчка, потым пабудавалі электрастанцыю, дзе працаваў брат маёй маці Аркадзь. У яго нейкі час мая маці і жыла.

Дарэчы, бацькі майго таты паставіліся да будучага шлюбу не вельмі добра. Напэўна, таму, што дзед Захар нібыта супрацоўнічаў з немцамі. Хаця яны і ведалі ўсю паднаготную, балазе, менавіта заданні атрада «Смерць фашызму» выконваў Захар, але ўсё адно ў тыя часы нават чуткі пра сувязі з акупантамі выглядалі небяспечнымі.

Таму мой бацька пайшоў насуперак волі бацькоў і літаральна ні з чым сышоў да любімай дзяўчыны. Вяселле ніякага не было. Яны проста распісаліся і сталі разам жыць. Было гэта ў 1959 годзе, а 28 траўня 1960 года нарадзіўся я. Праз чатыры гады з'явіўся малодшы брат Віктар.

Ён, дарэчы, аб'ехаў увесь свет, бо працуе рамонтнікам-наладчыкам БелАЗаў, якія пастаўляюцца ад Кітая да Чылі.

## Прага ведаў

Мне было толькі два гады, калі бацькоў накіравалі ў Манголію, дзе мы жылі ў невялічкім гарадку Тасон. Там быў дрэваапрацоўчы камбінат з уласнай цеплавой электрастанцыяй, і бацька вучыў манголаў, як трэба на ёй працаваць.

Хаця па вяртанні ў Беларусь мне было толькі пяць гадоў, добра памятаю тыя горы і тое, як мы з бацькам хадзілі лавіць харыусаў і тайменяў. Аднойчы я сабраў «малую шантрапу», і мы пайшлі ў вандроўку ў горы. Нас доўга шукалі. Памятаю, як знайшлі там нейкую пячору, дзе быў манастыр і некалі жылі манахі.

Дасталося тады мне ад бацькоў даволі моцна...

Нагадаю, што горад Жодзіна паўставаў з таго, што запрудзілі маленькую рэчку Пліса (націск на апошні склад. — заўвага аўтара), зрабілі вадасховішча і пабудавалі цеплавую электрастанцыю. У той час існаваў толькі невялікі пасёлак, і гарачую ваду не было куды дзець, таму маё дзяцінства нагадвала сапраўдны рай. Так бы мовіць, узнікла штучная тэрмальная крыніца. Наш пасёлак называўся ГРЭС. Сёння гісторыю гэтага кутка ў Жодзіна ведаюць усе. Некалі пасёлак быў абсалютна самастойны. Там працаваў свой рэстаран, мая любімая кнігарня (як я яе любіў!), школа, крамы, лазня, сталоўка, пошта, і нават будынак гарсавета ў той час быў менавіта ў нас.

Усё маё дзяцінства прайшло менавіта там, аб чым напісана ў шматлікіх эсэ і аповедах. Тыя гады, прыгоды, сябры, з якімі мы стварылі рок-гурт, зараз успамінаюцца з нейкай настальгічнай цеплынёй, хаця мой стрыечны брат, вядомы архітэктар Сяргей Казлоўскі, мае рацыю, калі кажа, што мы жылі ў самым крымінальным месцы Жодзіна.

Сапраўды, каб прыехаць да нас на танцы, трэба было набрацца вялікай смеласці альбо мець моцны «дах» у выглядзе сяброўства з нейкім мясцовым «аўтарытэтам».



Дзед Захар (справа) са стрыечным братам. Здымак зроблены ў Амерыцы, 1916 г.

Апошніх мы добра ведалі. Сваіх, жыхароў пасёлка, яны ніколі не чапалі. Фактычна наш пасёлак быў такой вялікай вёскай, а ў вёсках крымінальнікі ніколі не чапаюць сваіх. Нават калі тыя значна слабейшыя. Чужых могуць пабіць, сваіх — не.

Гэта зусім не тое, што піша пра свае Шабаны Альгерд Бахарэвіч, успамінаючы, як яго ў дзяцінстве білі. У нас нічога падобнага не было. Нейкія грошы (капейкі) маглі забраць, біць — ніколі.

Наша вадасховішча называлі Брызгалаўка. Яшчэ мне вельмі падабалася Судабальскае возера. Чароўнае месца! Да яго было тры-чатыры кіламетры. На роварах мы ехалі туды на цэлы дзень, знаходзілі схаваныя ў хмызняках лодкі і лавілі з іх карасёў сярод лабірынтаў з чаратоў.

У школу №1, якая носіць імя Пятра Купрыянава, у 1967 годзе я і пайшоў. Адвучыўся там восем гадоў. Адразу стала відавочна, што мне лягчэй даецца ўсё гуманітарнае, але маці сказала, што трэба атрымаць нейкую «запасную» прафесію, і параіла ісці ў Жодзінскі палітэхнікум. Маўляў, потым, калі буду вучыцца ва ўніверсітэце, можна будзе скарэктаваць прафесію. Я так і зрабіў.

Мая спецыяльнасць называлася «Аўтатрактарнае электраабсталяванне», хаця за гэты дзень я амаль нічога не цямлю ў падобнай справе. Як кажуць — не маё.

У гэты ж час бацькі зноў паехалі ў Манголію. Малодшага брата ўзялі з сабой, а мяне пакінулі на цётку, то бок родную сястру маці Лідзію Захараўну. Гэта маці ўзгаданага вышэй Сяргея Казлоўскага.

Палітэхнікум быў створаны на базе БелАЗа і рыхтаваў кадры менавіта для гэтага завода. Перыядычна мы праходзілі там практыку, і размеркаванне, натуральна, я атрымаў туды ж. Дакладней, у канструктарскае бюро. Рабіў нейкія чарцяжы, але да войска заставалася зусім мала часу.

Накіравалі ў сяржанцкую вучэбку ў Пячах. Пасля вучэбкі размеркавалі на перавалачную базу ў Брэст. Падчас службы я ліставаўся з сябрам па палітэхніцы Сашам Хомічавым, і мы вырашылі разам паступаць у прэстыжны Наргас. Пралялецелі, канешне, але мяне ўзялі на падрыхтоўчае аддзяленне, і праз год я стаў студэнтам. Сёння такой спецыяльнасці ўжо няма. Яна называецца па-іншаму, напэўна, які-небудзь «маркетынг». А за савецкім часам я вучыўся на планава-эканамічным факультэце на спецыяльнасці «Матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне».

У 1987 годзе скончыў Наргас і па размеркаванні паехаў у Наваполацк.

## Прага перамен

У Наваполацку адбылася кардынальная змена ў маім лёсе.

Вершы я пачаў пісаць яшчэ падчас юнацтва. Іх друкавалі не толькі белазаўская і наргасаўская шматтыражкі, але і вельмі салідныя выданні, накшталт маскоўскага «Сту-

# імкнуцца да самастойнасці»

дэнцкага мерыдыяна» і «Рабочай змены», якая потым стала «Парусам».

У Мінску пачаў шукаць адпаведнае асяроддзе і трапіў у літаб'яднанне «Восхождение» расійскай паэткі Валерыі Маргуліс. Яны былі пры будаўнічай шматтыражцы і збіраліся ў доме, які знаходзіцца ў самым пачатку вуліцы Карла Маркса. Дарэчы, разам са мной туды хадзіла будучая жонка вядомага паэта Леаніда Галубовіча Вера Лойка.

Калі я туды стаў хадзіць, то спачатку нават не мог уявіць, што ёсць нейкія маладыя людзі, чыя творчасць звязаная з беларускай мовай, бо яна падавалася мне нечым архаічным, амаль сялянскім, абсалютна не сучасным.

У 1984 годзе выдаў сваю першую «самапальную» кніжку «Дыхания», якая была цалкам рускамоўнай. Зборнічак падпольна збрашуравалі ў друкарні «БелАЗа». Літаратараў, якія пішуць на беларускай мове, я сустрэў толькі ў наступным годзе — Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Сіўчыкаў, Уладзімір Сцяпанаў. Хутка перайшоў на беларускую мову і сам. Стаў Алесем Аркушам.

Маё сапраўднае прозвішча Козік. Былы кіраўнік афіцыйных прафсаюзаў Беларусі — мой стрыечны дзядзька. Яго бацька — родны брат майго дзеда Антона. Ніякіх кантактаў паміж намі не было, бачыліся толькі адзін раз, на нейкім пахаванні.

Козікі жодзінскія з Козікамі барысаўскімі практычна не падтрымлівалі ніякіх адносін.

У сувязі з тым, што мой тата, паўтаруся, пайшоў насуперак сваім бацькам, больш шчыльныя сувязі ў маёй сям'і падтрымлівалі са сваякамі маці.

Яе дзявочая прозвішча Пятровіч, як псеўданім сучаснага кіраўніка Саюза беларускіх пісьменнікаў...

Чаму Аркуш? Мне хацелася нечага больш гучнага, чым «Козік». Хацелася знайсці нешта ідэалагічна-нейтральнае і ў той жа час блізкае да літаратуры. Аркуш (белы чысты ліст паперы) падыходзіў амаль ідэальна.

Чамусьці ў пісьменніцкім асяроддзі гэты псеўданім успрынялі як нешта жыдоўскае. Многія думалі, што гэта сапраўднае прозвішча.

Мая першая беларускамоўная публікацыя планавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва». Вершы нават былі ўжо набраныя на лінатыпе, і я прыйшоў вычытваць гранкі, калі мне настойліва параілі падпісацца не псеўданімам Аркуш, а сваім уласным прозвішчам. Маўляў, тады не будзе перашкод, інакш не надрукуюць.

Я адмовіўся, і вершы «знялі». Тая карэктура захавалася ў маім архіве... Да сёння ходзяць плёткі пра мае жыдоўскія карані... І не важна, што мой прадзед пабудаваў праваслаўную капліцу на могілках вёскі Бабін Лес...

Знятыя «ЛіМам» вершы я аднёс у «Маладосць», дзе Яўгенія Янішчыц сказала — друкуем. Але папрасіла (каб было з чаго выбраць) прынесці яшчэ вершаў. Калі я другі раз прыйшоў у рэдакцыю, з яе кабінета выходзілі Віця Шніп і Толя Сыс. Віцю я ведаў раней, з літаб'яднання пры «Чырвонай Змене», а з Анатолем тады і пазнаёміўся. Сыс адразу да мяне прасякнуўся добрымі пачуццямі, дачакаўся выхаду з кабінета Янішчыц і сказаў: «Ну што? У звычайным жыцці ты «маскаліш», напэўна? Трэба размаўляць па-беларуску. Пойдзем — пакажу».

І павёў нас (я быў з дзяўчынай) у «Батлейку», дзе тэатральна зрабіў замову: «Нам, калі ласка, тры марозіва і тры філіжанкі кавы!». Афіцыянт усё зразумеў, што вельмі красамоўна пацвердзіла тэзу Сыса пра тое, што вакол усе добра разумеюць беларускую мову, і не трэба баяцца на ёй размаўляць.

На жаль, потым ён стаў злоўжываць, а тады быў абсалютна іншым. Мы разам бывалі на шматлікіх імпрэзах. Не аднойчы я ў яго ў інтэрнаце начаваў, калі затрымліваўся ў Мінску. Гарэлку, дарэчы, пілі толькі адзін раз — на фэсце ў Вязынцы.

Менавіта ён вычытваў маю першую кніжку (зборнік паэзіі «Вяртанне») і паспрыяў яе выхаду ў якасці дадатку да часопіса «Маладосць». Цікава, што ў новай серыі яго першая кніга была трэцяй, а мая — пятай. Так што мы стартавалі амаль адначасова.

Пазней Анатоль Сыс прывёў мяне ў «Тутэйшыя» і параіў маю кандыдатуру Алесю Бяляцкаму, які адразу запрасіў на падпольныя пасяджэнні аб'яднання.

Да слова, «Тутэйшыя» мне тады больш падабаліся, чым пасля легалізацыі. На мой погляд, трэба заўсёды імкнуцца да самастойнасці, як гэта зрабіў у той час Алесь Усеня, не варта было нешта даказваць «савецкім мастадонтам»...

## Прага свабоды

Таварыства вольных літаратараў (ТВЛ), у нейкім сэнсе, было створана ў піку тагачаснаму (яшчэ адзінаму) Саюзу пісьменнікаў. Людзям, якія стваралі ТВЛ, не падабалася тая (збольшага) закасцянелая, канфармісцкая, неканфліктная ў адносінах да ўлады проза і паэзія. Нам хацелася стварыць нешта сваё. Беларускую літаратуру, якая б дыстанцыявалася ад той, што была раней.

Старэйшыя пісьменнікі ўспрынялі нашу ініцыятыву калі не варожа, дык не прыхільна.

Яны ўбачылі ў ТВЛ пэўную спробу расколу пісьменніцкага асяроддзя. Натуральна, гэта ставарала для нас шмат праблем.

Нягледзячы на моцны супраціў, 8 траўня 1993 года два дзясяткі пісьменнікаў (пераважна з Гародні і Полаччыны) на ўстаноўчым сходзе стварылі Таварыства вольных літаратараў.

І гэта вельмі сімвалічна, бо як бы лічыцца, што самае галоўнае ў жыцці чалавек павінен паспець зрабіць да Хрыстовага ўзросту, то бок да 33 гадоў. Я, можна сказаць, ускочыў у апошні вагон. 8 траўня нарадзілася ТВЛ, 28 — мне споўнілася 33.

Чаму пасля Наргаса абраў размеркаванне менавіта ў Наваполацк? Бо Наваполацк (а гэта практычна прамысловы раён Полацка) у некаторым сэнсе быў культурнай сталіцай Беларусі. Я вучыўся сярэдне, але ніхто на аддзел камплектацыі Наваполацкага завода «Вымяральнік» не прэтэндаваў. Завод лічыўся ваенным, не ведаю, як тады мяне прапусцілі. Напэўна, нехта нечага недагледзеў...



Алесь Аркуш, Сяржук Сокалаў-Воюш на экалагічным мітынгу ў Наваполацку, 1987 г.



Алесь Аркуш уручае літаратурную прэмію «Гліняны Вялес» Уладзіміру Някляеву. Мінск, 2011 г.



З Генадзем Бураўкіным у майстэрні Сержука Цімохава. Мінск, 2010 г.

Праблемы на гэты конт пачаліся ўжо ў Наваполацку, але завод ужо паміраў, і было не да адсочвання нелаяльных да ўлады работнікаў. Размеркавалі мяне ў 1987 годзе, то бок пасля таго, як пачалася перабудова, звязаная з кардынальнай ломкай архаічных савецкіх устояў.

Наваполацкае літаб'яднанне «Крыніцы», якое дзейнічала пры гарадской газеце «Хімік», узначальваў Уладзімір Арлоў, што было сапраўдным зорным часам тамтэйшага культурніцкага жыцця. У Наваполацку і Полацку было пісьменнікаў (нават афіцыйна прызнаных) больш, чым у любым абласным горадзе Беларусі. І якіх! Уладзімір Арлоў, Вінцэсь Мудроў, Сяржук Сокалаў-Воюш, Якуб Лапатка, Ірына Жарнасек, Лявон Неўдах, Міхась Барэйша, Лера Сом, Іна Снарская і г.д.

Зразумела, нашай тэвээлаўскай вольнасці трэба было нешта супрацьпаставіць. На мой погляд, «Полацкая ветвь» узнікла менавіта з гэтай прычыны, бо ў тыя часы ў іх было проста шыкоўнае фінансаванне. Для мяне па гэты дзень застаецца загадкай, адкуль яны бралі грошы на выпуск процьмы сваіх кніг, газеты «Вестник культуры» і часопіса «Западная Двина»? Зразумела, нам дапамагаў фонд Сораса (пакуль ён існаваў), і ніхто гэтага не хаваў, усё было абсалютна празрыста. Рэцэнзіі на нашы праекты пісалі Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс... Ведаю, што «Полоцкую ветвь» часткова падтрымлівала мясцовая ўлада.

З цяжкасцямі, але мы сталі выдаваць першы ў Беларусі недзяржаўны літаратурны часопіс, які называўся «Калоссе».

Ідэя яго стварэння належыць карэспандэнту «Звязды» Алесю Касценю, які жыў у Паставах. Ён паведаміў, што мае магчымасці выдаваць часопіс, але каб ён абавязкова меў назву «Калоссе». Моцныя спрэчкі былі па назве, бо часопіс з такой назвай выходзіў у Вільні ў 1930-х гадах. Шмат каму яна не падабалася, але сітуацыя разрулілася фразай Юры Гуменюка: «У нас ёсць два варыянты. Або мы будзем мець часопіс, які называецца «Калоссе», або не будзем мець нічога і зможам гэта называць, як заўгодна».

Выдавалі яго раз на год, выйшла ўсяго адзінаццаць нумароў.

Акрамя гэтага мы заснавалі выдавецкую суполку «Полацкае ляда», якая выдала каля трыццаці розных кніжак, у тым ліку (упершыню ў беларускай гісторыі) зборнік візуальнай паэзіі Людкі Сільновай «Рысасловы» ў заснаванай намі серыі «Паэзія новай генерацыі».

Да таго ж па прыездзе ў Наваполацк я заснаваў літаратурны альманах «Ксеракс беларускі», дэбютны нумар якога падпольна выйшаў у Вільні яшчэ за Савецкім Саюзам, а потым афіцыйна друкаваўся ў Беларусі і распаўсюджваўся праз легальныя структуры. А неўзабаве пачаў пісаць тэксты для рок-гурту «Мясцовы час».

На дадзены момант выйшла 12 маіх кніжак. Не толькі паэзіі, але і прозы, эсэістыкі і публіцыстыкі.

У 1993 годзе мы заснавалі прэмію «Гліняны Вялес», першым лаўрэатам якой стаў Ігар Бабкоў.

На жаль, сітуацыя ў беларускай літаратуры зараз вельмі складаная, і на мяне выходзяць многія пісьменнікі з прапановай актывізаваць дзейнасць ТВЛ і паспрабаваць зарэгістравацца афіцыйна, што, на маю думку, у год выбараў немагчыма па вызначэнні.

Асобна хачу сказаць пра сваю жонку Тацціяну.

Самым важным у маім жыцці быў 1988 год, калі ў лютым мы з Тацціянай пабраліся шлюбам. Нас пазнаёміў мастак Сяржук Цімохаў. Яго жонка Рыта вучылася з разам з Тацціянай.

Мая Тацціяна з легендарнага нацыяналістычнага класа Геніка Лойкі, дзе палова вучняў потым сталі апантанымі прыхільнікамі беларушчыны. Гэта было ў мастацкай вучэльні імя Ахрэмчыка, якую многія называюць «парнатам».

Яна нарадзіла мне двух сыноў — Антона і Данілу. Розніца паміж імі 14 гадоў. Даніла яшчэ школьнік. Антон скончыў прэстыжную Познаньскую політэхніку. Працуе праграмістам у фірме, якая абслугоўвае банкі. Жыве ў Познані.

Мінулым годам адбылося яго вяселле. На маім вяселлі спяваў Сяржук Сокалаў-Воюш, на яго — Зміцер Вайцюшкевіч. Паўгады таму ў сына нарадзілася дачка Сафія. Мая цудоўная ўнучка.

# «Синий платочек»:
## 75 гадоў самаму вядомаму шлягеру з Мінска

Аляксей ХАДЫКА

**Хто не чуў славутую савецкую песню — «Синий платочек», якая яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны была запісана ў выкананні дзвюх папулярных спявачак — Ізабелы Юр'евай і Кацярыны Юроўскай?**

### Нараджэнне шлягеру

Хутка да спісу выканаўцаўададаліся Лідзія Русланава, Вадзім Козін, Міхаіл Гаркаві. А між тым музыка песні паўстала раней словаў, 75 гадоў таму. Напісаў яе Ежы Пецерсбурскі (1895–1979), габрэй з Польшчы, піяніст і кампазітар Беларускага рэспубліканскага джаз-аркестра ў Мінску, у нумары гатэля «Беларусь», дзе музыка жыў увесну 1940 года.

Падчас гастроляў у Маскве бэнда «Блакітны джаз» Пецерсбурскага і Генрыка Гольда — яго калегі па папярэдняй працы ў 1930-я гады ў Варшаве (абодва пакінулі Беларускі рэспубліканскі джаз-аркестр, калі кіраўніцтва ім перайшло Эдзі Рознеру) новая мелодыя прагучала ўпершыню. І без слоў. Прэм'ера адбылася ў ліпені 1940-га на канцэрце ў тэатры «Эрмітаж», дзе шлягеравую музыку пачуў паэт Якаў Галіцкі. Адразу нарадзіліся вядомыя ўсім радкі:

*«Синенький, скромный платочек*
*Падал с опущенных плеч.*
*Ты говорила,*
*Что не забудешь*
*Ласковых, радостных встреч…»*

Праз два дні дапрацаваную пасля сустрэчы паэта з кампазітарам песню выканаў саліст «Блакітнага джазу» Станіслаў Ландау (1912–1992). Праўда, словам хутка было наканавана змяніцца яшчэ раз. Выбухнула вайна. Ужо да 29 чэрвеня 1941 года мелодыя загучала па ўсім СССР іначай, несучы роспачны, трагічны сэнс, адлюстраваны кіяўлянінам Барысам Кавынёвым:

*«Двадцать второго июня,*
*Ровно в четыре часа*
*Киев бомбили,*
*Нам объявили,*
*Что началася война…»*

Тэкст Якава Галіцкага таксама перажыў выклікі ваеннай завірухай змены: у франтавых выступах Лідзіі Русланавай і маладой Клаўдзіі Шульжэнкі з'явіліся новыя радкі. Іх дадаў супрацоўнік газеты 54-й арміі Волхаўскага фронту «В решающий бой!» Міхаіл Максімаў у час спаткання з Клаўдзіяй Іванаўнай на станцыі Волхаў 9–12 красавіка 1942 года:

*«За них, родных,*
*Желанных, любимых таких.*
*Строчит пулемётчик*
*За синий платочек,*
*Что был на плечах дорогих!»*

Незабыўны, драматычны лёс мелодыі. Апрача асноўных, знаўцы налічваюць каля сотні (!) варыяцый тэкстаў «Синего платочка».

На юбілейны канцэрт у 1976 годзе сямідзесяцігадовая Шульжэнка выйшла на сцэну з сіняй хусткаю ў руках, сарваўшы шквал апладысментаў: песня-вобраз зрабілася хрэстаматыйнай і назаўсёды пераплялася з вобразам самой спявачкі…





Клаўдзія Шульжэнка і сіняя хустачка

Ежы Пецерсбурскі

### Лёс аўтара музыкі

Ежы Пецерсбурскі вядомы яшчэ адным шлягерам, напісаным у «дабеларускі», польскі перыяд яго жыцця, у 1935–1936 гадах: «To ostatnia niedziela». Не здагадаліся? Правільна, бо ў нас на слыху ён у рускамоўнай версіі 1937 года аўтарства Іосіфа Альвека: «Утомлённое солнце»! Амаль адразу песню запісаў джазавы аркестр Аляксандра Цфасмана ў выкананні Паўла Міхайлава. З найменнем «Расставание», пасля замененым першым радком: «Утомлённое солнце // Нежно с морем прощалось».

Так узнік пірацкі савецкі «рымэйк» буржуазнай замежнай песенькі. Рытм мелодыі Цфасман паскорыў, надаўшы яму жарсці. Як і ў «Сіняй хустачкі», існавалі розныя версіі тэкстаў. Адна, у выкананні Шульжэнкі, называлася «Песня о юге», на словы Асты Галы. Як і тэкст Альвека — яна не з'яўлялася перакладам польскага арыгіналу Зянона Фрыдвальда. Мелодыя, у розных варыяцыях, то з тэкстам, то без яго, гучыць і ў некалькіх фільмах. Самыя вядомыя — «Спіс Шындлера» Стывена Спілберга 1993 года і «Стомленыя сонцам» Мікіты Міхалкова 1994 года. Абодва — лаўрэаты прэміі «Оскар».

### «Спаборніцтва» з Эдзі Рознерам

У 1939 годзе Ежы Пецерсбурскі быў першым кандыдатам на кіраванне Дзяржаўным джаз-аркестрам БССР, пра «стварэнне» якога «Советская Белоруссия» паведаміла 30 снежня.

Стварэння як такога не адбылося: пасля пачатку Другой сусветнай вайны на тэрыторыю далучаных да СССР Заходніх Беларусі і Украіны хлынула, ратуючыся ад нямецкай нацысцкай навалы, хваля прафесійных еўрапейскіх артыстаў, мастакоў, музыкаў.

Між тым, пастанова Камітэту па справах мастацтваў СНК СССР 1936 года патрабавала засноўваць у саюзных рэспубліках музычныя калектывы, у тым ліку джазавыя. Беларусь спазнялася, і было грэх не скарыстацца з шансу.

Тады ў прыдбаным СССР Беластоку апынуліся Ежы Пецерсбурскі і Генрык Гольд — яны і склалі аснову новага дзяржаўнага джаз-бэнду. Тым болей, што апрача «Стомленых сонцам», Пецерсбурскі паспеў праславіцца еўрапейскім хітом — танга «О, дона Клара». А дасведчаныя меламаны ведалі слынны ў 1930-я гады начны варшаўскі клуб «Гольд і Пецерсбурскі», якім да вайны на паях валодалі артысты.

Ежы паходзіў з вядомай у музычным свеце Польшчы клезмерскай сям'і Мэлёдзіста, скончыў Варшаўскую кансерваторыю, стажыраваўся ў Вене. Там звярнуў увагу Імрэ Кальмана, акампаніраваў Аляксандру Вярцінскаму. Вызначыўся стварэннем мелодый для кіно і для песні «Amour disait follie» самой Эдзіт Піяф.

Аднак… У тым жа Беластоку на мяжы 1939–1940 гадоў збіраў аркестр варшаўскі кампазітар і джазавы піяніст Ежы Бяльзацкі. Прадстаўнікі Камітэта па справах мастацтваў з Мінску, праслухаўшы калектыў, адчулі, што ён мае лепшы творчы патэнцыял. І змянілі першапачатковае рашэнне на карысць Бяльзацкага. Спачатку Пецерсбурскі далучыўся да новага кіраўніка. Той, у сваю чаргу, разумеючы маштабнасць новых задач, вырашыў шукаць для аркестра суперзорку.

Выбар спыніўся на Эдзі Рознеры — габрэйскім трубачы польскага паходжання, народжаным і адукаваным у Германіі. Пасля еўрапейскіх гастроляў у 1935-м 25-гадовая славутасць не вярнулася ў нацысцкую Нямеччыну, а асела менавіта ў Варшаве, дзе Рознер граў якраз у трупе Бяльзацкага. Напачатку 1940 года апошні знайшоў Рознера ў Львове.

У красавіку 1940 года, калі зводны аркестр нарэшце перабраўся з Беластоку ў Мінск, каб пачаць працу ў сталіцы, яго ачоліў Рознер. Бяльзацкі застаўся дырыжорам. А Пецерсбурскі разам з Генрыкам Гольдам аркестр пакінулі.

Ратацыю, паслухаўшы музыкаў, падтрымаў кіраўнік Беларусі Панцеляймон Панамарэнка. Дзякуючы яму аркестр займеў лепшыя ў СССР інструменты і гукаўзмацняльную апаратуру (здабытую ў акупаванай нядаўна Вільні) і ідэальнае забеспячэнне — хапіла на струнную групу, кардэбалет і два гастрольныя вагоны.

Як прыгадвала дачка Рознера Эрыка, «Панамарэнка быў камуністам, дужа багата піў, але любіў джаз». Рознеру настолькі добра плацілі, што за ім замацавалася мянушка — «залатая труба», яна адначасова падкрэслівала ўзровень выканальніцкага майстэрства маэстра.

Але паводле прынцыпу «сегодня он играет джаз, а завтра Родину продаст», у 1947 годзе, падчас кампаніі барацьбы з касмапалітызмам, Эдзі Рознер быў арыштаваны і адпраўлены ў сталінскія лагеры.

Ежы Пецерсбурскаму пашчасціла, у адрозненне ад Рознера, эміграваць за мяжу праз армію Андэрса. У 1942–1943 гадах ён апынуўся ў Каіры на польскім радыё, а па вайне праз Палесціну выехаў у Бразілію. З 1949 па 1967 працаваў у Буэнас-Айрэсе капельмайстрам у аргенцінскім Teatro El Nacional. Вярнуўшыся ў Варшаву, паспеў у 74 гады нарадзіць сына — музыку, кампазітара і даследчыка творчасці бацькі.

### «Доулі Фэмілі» і Стэнлі Лаўдэн

Тут можна было б паставіць кропку, каб не займальны эпізод, звязаны з «Сіняй хустачкай», расказаны ў адной з «мінскіх гісторыяў» іх аўтарам, Міхаілам Валодзіным. Першым заходнім гуртом, што прарваў жалезную заслону канцэртамі ў Ленінградзе і Маскве ў кастрычніку 1975 г., быў малавядомы брытанскі «Доулі Фэмілі». Сямейны калектыў: 3 браты і 2 сястры. На «Мелодыі» яны выпусцілі вялікі дыск, памятны меламанам позносавецкага часу. Апрача сваякоў у склад ансамблю ўваходзілі яшчэ два чалавекі і імпрэсарыё. Менавіта ён, немаладу ўжо чалавек, Стэнлі Лаўдэн, і ў Ленінградзе, і ў Маскве, пасля асноўнай праграмы абвяшчаў, што спяе напісаную 35 год таму песню, якую публіка мусіць ведаць. І спяваў «Сінюю хустачку».

Памятаеце імя яе першага выканаўцы? Правільна, Станіслаў Ландау! Ён жа Стэнлі Лаўдэн! Пасля службы ў войску Андэрса, перамогі пад Монтэ-Касіна, эміграцыі ў Вялікабрытанію, працы на Бі-Бі-Сі, няўдалай спробы прывезці «Бітлз» у СССР у 1964 годзе і «брытанізацыі» прозвішча…

**Поўны тэкст і больш фота — на сайце novychas.info**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 473

Падпісана да друку 10. 04.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.